20 студзеня 2017 | № 2 (516)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Хто супраць Меркель?
стар. 8



# Хто падставіў Аляксандра Рыгоравіча?

## Чуткі пра чарговую рэзідэнцыю Лукашэнкі не спраўдзіліся, але пытанні засталіся



Сяргей ПУЛЬША

Жыхары пасёлку Шаршуны Мінскага раёна і нейкія ананімныя крыніцы распавялі тэлеканалу «Белсат», што ў гэтым месцы ўжо некалькі гадоў дабудоўваюць шыкоўны комплекс для кіраўніка Беларусі, які ён пастаянна наведвае. Тыя, хто ведае пра будынак, распавядаюць, што там ёсць басейн, лазні, тэнісныя корты, корпус для прыслугі, верталётная пляцоўка.

З наяўнасці на аб'екце верталётнай пляцоўкі і было вырашана, што гэта — чарговы офіс кіраўніка дзяржавы.

Хваля ўзбуджэння з гэтай нагоды ў сацыяльных сетках трымалася некалькі дзён. Што сімптаматычна: тыя некалькі дзён улады маўчалі. І толькі пасля з'явіліся звесткі: таямнічы комплекс належыць не кіраўніку дзяржавы, а расійскаму алігарху Міхаілу Гуцырыеву. Пра гэта TUT.BY паведамілі «інфармаваныя крыніцы».

У 1990-х гадах гэтая пляцоўка належала дзяржаўнай лесагаспадарчай установе «Красносельскае». Затым перайшла ва ўпраўленне яшчэ адной структуры КСП — «Дыпсэрвіс». Пару гадоў таму ўчастак узяла ў арэнду на 100 гадоў кампаніяй «СертусАвиа», афіляваная з Гуцырыевым. Будынкі на тэрыторыі таямнічага аб'ёкту належаць кіпрскай афшорнай кампаніі. «Блатберг Холдингс Лімітэд».

Такім чынам, чуткі пра «рэзідэнцыю» і апынуліся «нездаровай сенсацыяй».

Але чаму гэтая сенсацыя ўвогуле стала магчымай? Ці не прасцей было адразу ж патлумачыць, што кіраўніцтва справамі беларускага правадыра, і тым больш ён сам, не мае да аб'екту ніякага дачынення? Навошта было рабіць з гэтага таямніцу і «распальваць сацыяльную варожасць»? Дый тое, што стала вядома пра таямнічы аб'ект, выклікае тыя ж пытанні. Як «Белсат», так і TUT.BY спасылаюцца на нейкіх «кампетэнтных асоб» і «інфармаваныя крыніцы».

А вось што робіць прэс-служба кіраўніка дзяржавы, да якога скандал мае непасрэднае дачыненне, — загадка. Між тым, менавіта ў іх функцыі павінна ўваходзіць тлумачэнне сітуацыі.

Адбываецца тое, пра што журналісты казалі ўжо даўно як пра сістэмную праблему. Менавіта закрытасць дзяржаўных структур шкодзіць, найперш, ім самім. Каб той жа «Белсат» мог звярнуцца па каментар у дзяржструктуры, і там бы гэты кампетэнтны каментар далі, — не было б ніякай сенсацыі.

Між тым, яшчэ ў 2015-м «Наша Ніва» налічыла 16 сядзібаў беларускага кіраўніка па ўсёй краіне. Каментатары пачалі разважаць, навошта яму столькі і што з імі рабіць.

Каардынатар аргкамітэту па стварэнні БХД Павел Севярынец у Фэйсбуку ўжо прапанаваў аддаць будынак на праспекце Пераможцаў будучаму Беларускаму нацыянальнаму ўніверсітэту, Астрашыцкую рэзідэнцыю — гісторыкам, Бярэзінскую ды Прыпяцкую — абаронцам прыроды, а Шаршуны — Ніне Багінскай. Гэтыя прапановы адразу выклікалі навалу крытыкі. Маўляў, Палац незалежнасці непрыстасаваны для ўніверсітэту, кепская лагістыка (нязручна да яго ездзіць) і ўвогуле лепей аддаць яго музею. Ці пакінуць у існым стане — для прыёму замежных дэлегацый.




Між тым, не ўсе рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы «безгаспадарныя». Напрыклад, будынак у Вайсковым завулку, які таксама лічыцца адной з рэзідэнцый (зараз там рэгулярна праходзяць перамовы працоўных груп па Украіне) быў перарэгістраваны як гатэль. Праўда, ці можна там пажыць чалавеку «з вуліцы» — вялікае пытанне.

Рэзідэнцыяй таксама называюць базу адпачынку «Крупеніна» ў 30 кіламетрах ад Віцебска — два корпусы і некалькі VIP-катэджаў. Туды прыязджалі Уладзімір Пуцін, Леанід Кучма, і спыняўся патрыярх Кірыл. Калі рэзідэнцыя не занятая, у «Крупеніна» можа пабываць любы жадаючы. Самы просты нумар у 2015 годзе каштаваў каля $40, а дарагі катэдж — $530.

Скандал з «рэзідэнцыяй» прыцягнуў увагу да іншых «будоўляў стагоддзя», на якія замахнуліся ўлады. Высветлілася,

> **Закрытасць дзяржаўных структур шкодзіць, найперш, ім самім**

што побач з Палацам незалежнасці паўстае новы будынак Вярхоўнага суда. У будынку 5 наземных паверхаў і адзін падземны з тэхнічнымі і спецыяльнымі памяшканнямі, па знешнім выглядзе ён адпавядае стылю Палаца незалежнасці. Мяркуецца, што да канца 2018 года новабудоўля будзе гатовая. У 2019-м нас чакаюць Еўразійскія гульні — зноў выдаткі. Да іх мы павінны скончыць рэканструкцыю стадыёну «Дынама» і адкрыць Цэнтр мастацкай гімнастыкі. Не дабудаваная яшчэ і Беларуская АЭС.

Між тым, знешні доўг Беларусі напрыканцы 2016 года дасягнуў $13,5 мільярда. Прычым, суадносіны знешняга дзярждоўгу да ВУП могуць дасягнуць 29% (пры ўмове, што знешні дзярждоўг захаваецца на ўзроўні 2016-га, а ВУП складзе прагназуемыя $46,5 мільярда). То бок, нават пры самым спрыяльным развіцці падзей мы апынёмся за межамі фінансавай бяспекі: па параметрах эканамічнай бяспекі, прыведзеных на сайце Мінфіна, знешні дзярждоўг па адносінах да ВУП не павінен перавышаць 25%.

Ці варта ў такіх умовах замахвацца на мегапраекты? Можа быць, уладзе самой варта скарыстацца парадай, якую рэгулярна дае насельніцтву, — «зацягнуць паясы»?

# Алег Корбан пакараны за акцыю супраць адэптаў «рускага свету»

**Суд Савецкага раёна горада Мінска 16 студзеня пакараў лідара грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» Алега Корбана штрафам у 805 рублёў за ўдзел 9 снежня 2016 года ў несанкцыянаванай акцыі ля будынку БДУІР.**

Такое рашэнне прыняла суддзя Наталля Драчова.

Нагадаем, 9 снежня дзесяць сябраў «Альтэрнатывы» прыйшлі да галоўнага корпуса БДУІР у Мінску з расцяжкай «Выкладчык Паўлавец — здраднік!», каб выказаць свае стаўленне да аўтара правакацыйных артыкулаў на сайце «Рэгнум», так званаму адэпту «рускага свету». Аднак мерапрыемства блакавалі дружыннікі ўніверсітэта ды некалькі грамадзян у цывільным, якія парвалі частку расцяжкі, а таксама ўзялі ў кола пратэстоўцаў. Акцыя завяршылася скандаваннем лозунгаў «Ганьба!», «Не рускаму свету на Беларусі!».

Праз месяц аднаму з актыўных удзельнікаў акцыі Алегу Корбану была ўручана копія адміністрацыйнага пратаколу, складзенага па артыкуле 23.34 КаАП РБ і позва ў суд.

«Чарговы факт ціску і пераследу актыўных грамадзян у нашай краіне. На судзе я патлумачыў, што не лічу сябе вінаватым у парушэнні правілаў арганізацыі і правядзення вулічных акцый, паколькі згодна з Канстытуцыяй і маральным прынцыпам маю права публічна выказваць сваё меркаванне. Калі падаць заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзенне падобнага мерапрыемства, то рашэння ўладаў трэба чакаць 15 дзён, а ў нашым выпадку такога часу не было. Тым больш, я не ведаю выпадкаў, каб чыноўнікі санкцыянавалі падобныя акцыі, таму мы былі вымушаныя дзейнічаць па абставінах зыходзячы з нашых перакананняў і ідэйных прынцыпаў», — каментуе рашэнне суда Алег Корбан.

Абскардзіць пастанову суда Алег Корбан не збіраецца, «гэта дарэмнае марнаванне грошай і часу, у іх ужо ўсё вырашана», — рэзюмуе актывіст.

**Прэс-служба ГА «Альтэрнатыва»**

# Эстонцы знялі фільм пра Станіслава Шушкевіча

**Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч стаў героем дакументальнага фільма эстонскіх журналістаў Айвара Валдрэ і Лаўры Ліпмаа.**

Як адзначаецца ў рэцэнзіі да фільма «Шуша», гэта карціна, якая распавядае пра паўсядзённае жыццё Станіслава Шушкевіча.

«Фільм пра тое, як жыве і пра што думае чалавек, які чвэрць стагоддзя таму ініцыяваў падпісанне Белавежскіх пагадненняў, якія скасавалі СССР. Шушкевіч, які час ад часу грае для сябе і сяброў раннія песні Высоцкага, з'яўляецца адным з найвялікшых людзей сучаснай гісторыі, чыя ініцыятыва выклікала «эфэкт даміно» і прывяла да наймацнейшага геапалітычнага зруху ў Еўропе. Аднак сам Шушкевіч лічыць самым галоўным не тое, што ён адправіў «шостую частку сушы» да продкаў, а тое, што ён зрабіў незалежную Беларусь бяз'ядзернай дзяржавай», — адзначаецца на сайце эстонскага кінафестывалю.

Як расказаў «Радыё Свабода» Станіслаў Шушкевіч, ён і сам не чакаў, што прыме ўдзел у здымках фільма:

«У мяне ж дома бывае вельмі шмат карэспандэнтаў. Пэўных журналістаў не пускаю — прапагандыстаў я адразу выганяю. А гэта былі журналісты ад маіх добрых знаёмых у Таліне, мы з імі паладзілі.

Я нават не вельмі добра ўсведамляў, што гэта фільм здымаецца, — думаў, гэта проста як інтэрв'ю, нейкая размова. Мне прычапілі радыёмікрафон. Я паказаў ім лецішча, рабіў усялякія глупствы, а яны здымалі. Праз нейкі час тэлефануюць: мы зрабілі фільм, вы не будзеце супраць, калі мы яго назавем «Шуша»? Вы казалі, што ў вас у дзяцінстве была такая мянушка. Я кажу: калі ласка, я нічога супраць ня маю. Мне вельмі спадабалася гэтае знаёмства з чалавечым сэнсе».

Шушкевіч пабачыў фільм у канцы мінулага года на кінафестывалі ў Таліне «Цёмныя ночы».

«Публікай фільм быў вельмі добра ўспрыняты. Мая жонка потым доўга на мяне сварылася за гэты фільм — кажа, што зрабілі нейкі прыватны фільм. Але я нічога супраць не маю — гэта добрыя журналісты, добрыя дакументалісты. Яны вельмі прыстойныя і сумленныя людзі, мне яны спадабаліся».

Экс-старшыня Вярхоўнага Савету кажа, што асабліва новага ён у гэтым фільме не расказваў пра сябе.

«Я баюся, што нічога там не расказваю: я проста паказаў сваё лецішча, кабінет, кампутар… Яны наогул не столькі пыталі ў мяне, колькі здымалі», — кажа Шушкевіч.

**Паводле svaboda.org**

# У КПЧ зарэгістравалі скаргу журналіста

**Гродзенскаму журналісту-фрылансеру Алесю Дзянісаву прыйшоў ліст з Камітэта па правах чалавека пры ААН пра рэгістрацыю яго скаргі. Алесь Дзянісаў з дапамогай гродзенскіх прадстаўнікоў праваабарончага цэнтра «Вясна» даслаў у КПЧ ажно тры скаргі.**

Усе яны датычылі незаконных штрафаў у дачыненні да яго за фактычна падрыхтоўку журналісцкіх матэрыялаў. Па тым жа артыкуле (незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі) каралі і калегу Дзянісава — іншага гродзенца Алеся Кіркевіча, скаргу якога таксама прыблізна ў адзін час зарэгістравалі ў КПЧ. Хоць паводле Адміністрацыйнага кодэксу Рэспублікі Беларусь адказнасць за гэта прадугледжана толькі для юрыдычных асоб, гродзенскія суды адвольна і неправамерна трактавалі закон.

Згодна з пастановай суддзі Ленінскага раёна Гродна Юрыя Казакевіча ад 4 красавіка 2014 года, Алесь Дзянісаў быў аштрафаваны па ч.2 арт. 22.9 КаАП на 30 базавых велічынь. 6 лютага 2014 года Алесь Дзянісаў запісаў відэаматэрыял, які пазней выкарыстаў спадарожнікавы тэлеканал «Белсат» у адным з выпускаў сваіх навінаў. Сюжэт датычыў пастаноўкі спектаклю «Фаўст. Сны».

Пастановай суддзі суду Ленінскага раёну Гродна Алены Пятровай 22 красавіка 2015 года Алесь Дзянісаў быў аштрафаваны па ч.2 арт. 22.9 КаАП на 20 базавых велічынь. Падставай стала тое, што Дзянісаў і Кіркевіч зрабілі для тэлеканалу «Белсат» відэасюжэт пра выставу слуцкіх паясоў у Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі.

Пастановай суддзі Юрыя Казакевіча 19 жніўня 2015 года Алесь Дзянісаў па тым жа артыкуле аштрафаваны на 25 базавых велічынь. Падставай для пакарання паслужыла тое, што 23 чэрвеня таго года журналісты працавалі і рабілі матэрыял у час адкрыцця мастацкай выставы пад назвай «Лялькі», якая арганізоўвалася пры ўдзеле консульства Літвы ў гарадской выставачнай зале Гродна.

Алесь Дзянісаў падаваў касацыйныя скаргі ў Гродзенскі абласны суд, аднак суды гэтай інстанцыі, на жаль, прадказальна ўзялі бок раённага суда. Суддзі Анатоль Заяц і Мікалай Рачынскі пакінулі пастановы Ленінскага суда нязменнымі.

Цяпер дзяржава мусіць адказваць па факце рэгістрацыі скаргі журналіста-фрылансера ў КПЧ.

**Гарадзенская вясна**

# У Беларусі расстраляна каля 600 тысяч чалавек

Арцём ЛЯВА

**На пасяджэнні аргкамітэта па стварэнні ініцыятывы «Вяртанне памяці», прысвечанай абвяшчэнню 2017-га Годам памяці ахвяр бальшавіцкага тэрору, былі прадстаўлены абагульненыя статыстычныя звесткі па рэпрэсаваных жыхарах Беларусі ў 1930–1950-х.**

Гісторык Ігар Кузняцоў, які быў асноўным дакладчыкам, канстатаваў, што беларуская ўлада фактычна стала саўдзельніцай рэпрэсій, паколькі не толькі не спрыяла, але замінала ўшанаванню памяці ахвяр сталінізму.

Прызнаючы, што, паводле афіцыйных вынікаў, у нас рэпрэсавана 600 тысяч чалавек, за апошнія 22 гады (у 1989 годзе была прынятая пастанова Савета міністраў «Аб увекавечванні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937–1941 гадоў у лясным масіве «Курапаты») нічога не зроблена на ўзроўні дзяржавы. Усё, што зроблена для ўшанавання памяці закатаваных, зроблена намаганнямі грамадскасці.

Грамадскі трыбунал над сталінізмам у мінулым годзе вынес абвінавачванне бальшавіцкім уладам і іх карным органам у арганізацыі і ажыццяўленні рэпрэсій супраць сваіх і замежных грамадзян. Цяпер Ігар Кузняцоў прэзентаваў падрабязныя статыстычныя лічбы па рэпрэсіях.

Паводле Ігара Кузняцова, Беларусь асабліва пацярпела ад рэпрэсій, паколькі з'яўлялася памежным рэгіёнам з мяжой, якая перамяшчалася, што давала падставы выяўляць вялікую колькасць «шпіёнаў». Таксама рэпрэсіі былі абумоўлены жаданнем зламіць касцяк нацыянальнай інтэлігенцыі.

«1937 год — гэта год беспрэцэдэнтнай жорсткасці прысуду, год антычалавечных планаў і разнарадак на знішчэнне людзей, год фальшаванняў абвінавачванняў, год жудасных катаванняў, год надзвычай закрытых судовых разбіральніцтваў, год кругавой парукі, год даносаў адзін на аднаго, год сапраўдных трагічных падзей для беларускага народа. І вельмі сумна, што зараз гэтую тэму стараюцца абыходзіць бокам. Сіндром 1937 года застаўся, і нават узмацніўся. Чалавек нібыта свабодны, але ўсяго баіцца», — адзначыў Ігар Кузняцоў.

Ён заўважыў, што, паводле афіцыйных дадзеных, у Беларусі рэпрэсавана 600 тысяч чалавек, рэабілітавана 200. У 1999 годзе працэс рэабілітацыі завяршыўся ў сувязі з поўным завяршэннем перагляду спраў. «Куды падзеліся 400 тысяч?» — задаецца пытаннем Ігар Кузняцоў. Паводле ж падлікаў даследчыка, у Беларусі рэпрэсавана прыкладна паўтара мільёны чалавек. Прыблізна 600 тысяч з іх былі расстраляныя (!).

Але нават калі браць за аснову афіцыйныя лічбы рэпрэсій, гэтыя трагічныя падзеі нельга ігнараваць і абавязкова трэба вывучаць, даследаваць і адзначаць на дзяржаўным узроўні.

Расстрэлы рабіліся ў 124 месцах Беларусі (12 з іх размешчаныя ў Мінску). Афіцыйнымі ўладамі прызнаныя толькі Курапаты. Вельмі часта ў дакументах месца расстрэлу і дата не ўказаныя. На тэрыторыі Беларусі расстраляна, паводле Ігара Кузняцова, 371 тысяча чалавек. Яшчэ каля 240 тысяч — за межамі Беларусі. Прычым расстрэльвалі, зноў жа, збольшага рабочых і сялян.

«Агучаныя дадзеныя даюць нагоду задумацца ў год памяці пра характар рэпрэсій, пра тое, хто стаіць за трагічнымі лічбамі і сведчаць, што кампартыя Беларусі, НКУС вінаватыя ў здзяйсненні злачынстваў супраць савецкіх і замежных грамадзян, не толькі інтэлігенцыі, эліты, але і звычайных рабочых і сялян. Кожная сям'я, яе страты павінны стаць агульным болем для ўсіх», — падсумаваў свой даклад Ігар Кузняцоў.

«Мы выйшлі за межы ўшанавання ахвяр Курапатаў і вырашылі стварыць гістарычна-асветніцкую ініцыятыву «Вяртанне памяці», каб вярнуць беларускаму народу памяць пра рэпрэсаваных продкаў», — патлумачыла мэту стварэння новай ініцыятывы Ганна Шапуцька.

Сярод запланаваных кірункаў дзейнасці ў 2017 годзе такія:

- Ініцыятыва «Зніч памяці» (плануецца ладзіць культурніцкія вечары памяці).
- «Марафон памяці» (наведванне 29 дня кожнага месяца месца расстрэлаў).
- Талака, прысвечаная ахвярам вялікага тэрору.
- Устаноўка 100 крыжоў ад «Вяртання памяці».
- Арганізацыя 29 кастрычніка «Зорнай алеі», каб асвяціць усе Курапаты знічкамі памяці.
- Адзначэнне 23 жніўня Міжнароднага дня памяці ахвяраў таталітарных рэпрэсій.

***Больш падрабязна пра пасяджэнне Камітэта чытайце на нашым сайце novychas.by***

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Тонкая грашовая справа

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Галоўны беларускі фінансавы рэгулятар натхніўся з прычыны стабільнасці нацыянальнай валюты. Аднак пакуль што гэтую стабільнасць аплачваюць грамадзяне. Што будзе, калі аплата скончыцца, — загадка.**

Як вядома, афіцыйная інфляцыя ў Беларусі за мінулы год склала 10,6%. Улічваючы, што прагноз быў на ўзроўні 12%, гэта ўразіла Нацбанк. І таму гэтае ведамства вырашыла з 18 студзеня знізіць стаўку рэфінансавання з 18% да 17% гадавых, а таксама паменшыць стаўкі па пастаянна даступных і двухбаковых аперацыях па падтрымцы бягучай ліквіднасці банкаў з 23% да 22% гадавых.

Што гэта азначае для шарагова грамадзяніна? Фінансавы аналітык даследчай групы BusinessForecast.by Аляксандр Муха распавёў, што зніжэнне стаўкі рэфінансавання ў першую чаргу паменшыць прывабнасць укладаў насельніцтва ў нацыянальнай валюце. Але наўрад ці варта чакаць вялікага адтоку рублёвых дэпазітаў з банкаў. З гэтай прычыны стаўкі па рублёвых дэпазітах або зменшацца на 1 працэнтны пункт, або ўвогуле застануцца нязменнымі.

У структуры ўкладаў насельніцтва на 1 студзеня 2017 года валютныя дэпазіты займаюць 76,3%, а рублёвыя — усяго 23,7%. Прычым многія рублёвыя рахункі — гэта бягучыя разліковыя рахункі (у асноўным, заробкавыя) і сродкі кансерватыўнай часткі насельніцтва (пенсіянераў, жыхароў рэгіёнаў і гэтак далей), якія наўрад ці сочаць за змяненнем стаўкі рэфінансавання і не будуць забіраць свае сродкі з банкаў. Тыя ж актыўныя фундатары, якія пастаянна назіраюць за стаўкамі, хутчэй за ўсё, ужо даўно «сышлі» ў валютныя ўклады або валютныя аблігацыі, стаўкі па якіх вышэй, чым па рублёвых дэпазітах.

Аднак ад зніжэння стаўкі выйграюць пазычальнікі — юрыдычныя і фізічныя асобы. Бо стаўкі па крэдытах могуць зменшыцца не на 1, а на 2–3 працэнтныя пункты, таму што ў мінулым годзе памяншаліся больш павольна за стаўкі па дэпазітах.

Такім чынам, Нацбанк крыху паляпшае становішча ўсёй банкаўскай сістэмы. Калі будзе лягчэй аддаваць крэдыты — зменшыцца праблемная запазычанасць, якая апошнім часам выклікае вялікія асцярогі рэгулятара.

Адкліканне банкаўскіх унёскаў насельніцтва можна не чакаць яшчэ і таму, што насамрэч беларусам няма чаго зберагаць. Рэальныя даходы насельніцтва ў студзені-лістападзе мінулага года, паводле Белстату, упалі на 7,5% — гэта антырэкорд, калі паглядзець, як зніжаліся прыбыткі ў параўнанні з папярэднім годам. Напрыклад, у студзені-кастрычніку 2016 года рэальныя даходы насельніцтва знізіліся на 7,3% у параўнанні з аналагічным перыядам 2015 года, у студзені-верасні — на 7,2%. Між тым, урад планаваў, што па выніках мінулага года рэальныя даходы павінны былі павялічыцца на 0,5% да паказчыка 2015 года.

На пачатак 2017 года, згодна банкаўскай статыстыцы, тэрміновыя валютныя ўклады насельніцтва скараціліся ў адносінах да мінулага года на 9% — 6,99 мільярда долараў супраць 7,7 мільярда. Пры гэтым рублёвыя ўклады павялічыліся на 12% — але толькі за кошт налічаных працэнтаў, і не выраслі ў рэальным выразе.

**У 2016 годзе скарачаліся не толькі банкаўскія ўклады, але і «кубышкі». У мінулым годзе беларусы прадалі валюты на 2,4 мільярда долараў больш, чым набылі**

У 2016 годзе скарачаліся не толькі банкаўскія ўклады, а і «кубышкі». У мінулым годзе беларусы прадалі валюты на 2,4 мільярда долараў больш, чым набылі.

Па словах спецыялістаў, раставаць зберажэнні беларусаў будуць яшчэ на працягу двухтрох гадоў. МВФ прагназуе, што да 2020 года Беларусь апынецца аўтсайдарам у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе па ўзроўні валавых нацыянальных зберажэнняў, хоць яшчэ нядаўна была рэгіянальным лідарам.

«Рэальныя даходы насельніцтва ў мінулым годзе знізіліся, і, каб падтрымаць спажыванне на ранейшым узроўні (а жаданне такое ў насельніцтва прасочваецца), у ход ідуць зберажэнні», — тлумачыць спецыяліст Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Зміцер Крук.

Але такая аплата насельніцтвам «стабільнасці беларускага рубля» можа закансерваваць «інвестыцыйную дэпрэсію», разважае Крук. Калі раней кампаніі не былі гатовыя да інвестыцый з-за эканамічнага спаду, то цяпер другім фактарам можа стаць меншая доля сродкаў у насельніцтва, якія маглі б быць накіраваны ў эканоміку. Гэта можа выклікаць другую хвалю спаду ў эканоміцы, папярэджвае адмыслоўца.

То бок, падзенне даходаў насельніцтва не менш небяспечнае, чым іх неабгрунтаваны рост. І калі ў беларусаў скончацца «заначкі» і «кубышкі», мы можам сутыкнуцца з крахам унутранага попыту, што прывядзе да новай «затаваранасці» складоў і, адпаведна, новым спадам. Крохкая гэта штука — эканоміка.

Што ж да даходаў у цэлым, то яны працягнуць падаць. Расія ў першым квартале паставіць у Беларусь толькі 4 мільёна тон нафты, паведаміў журналістам віцэ-прэзідэнт расійскай кампаніі «Транснафта» Сяргей Андронаў. Гэта прыкладна на 12% менш, чым першапачаткова планавалася, нават з улікам нафтагазавай спрэчкі, і на 2 мільёны тон менш, чым трэба Беларусі.

Раней Расія планавала пастаўляць у 2016–2024 гадах у Беларусь 24 мільёны тон нафты штогод. Аднак у другім паўгоддзі 2016 года аб'ём паставак быў зменшаны з-за неаплаты газу з боку Беларусі і недапаставак нафтапрадуктаў у РФ.

Каб атрымаць грошы, можна, як казаў той кот Матроскін, прадаць што-небудзь непатрэбнае. Але справа ў тым, што непатрэбнае нам не трэба і нікому іншаму. Хіба што задарма.

Напрыклад, «Ілжэ-Кемпінскі» ў Мінску, які знявечыў гістарычную панараму горада ў раёне цырка. Нагадаем, з нагоды яго будаўніцтва быў вялікі скандал, бо дзеля гатэлю знеслі гістарычны помнік — будынак першай мінскай электрастанцыі. Потым высветлілася, што «Кемпінскі» да гатэлю дачынення не мае, а працы вядзе кампанія Юрыя Чыжа. Чыж будаўніцтва не скончыў, і яго пасадзілі. Гатэль, які павінны былі ўвесці ў дзеянне ў 2014-м, так і не здалі.

Зараз у Мінск прыляцеў старшыня праўлення расійскага Ашчадбанка Герман Грэф, ён сустракаўся з Аляксандрам Лукашэнкам. Па афіцыйных паведамленнях, размова ішла «аб удзеле Ашчадбанка ў дафінансаванні складаных праектаў у Беларусі». У выніку, як паведамляе прэса, «недабудоўля» была прададзеная кампаніі «Ашчадбанк Капітал» — дачцэ Ашчадбанка, якая займаецца будаўніцтвам.

Сума здзелкі —1,99 беларускага рубля. Добра, праўда?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алег Волчак

**Кіраўнік «Прававвой дапамогі насельніцтву» (зарэгістраванай ва Украіне) і прафсаюз РЭП распачалі збор подпісаў супраць Дэкрэта №3.**

Збор подпісаў будзе адбывацца па 18 лютага ва ўсіх абласных цэнтрах у офісах прафсаюза РЭП. Акрамя таго, з 18 студзеня на сайце zvarot.by запушчана анлайн-петыцыя «Не Дэкрэту №3 «аб дармаедах», якую можа падпісаць кожны.

«Людзі вельмі злыя. У мяне тэлефон не змаўкае да самай ночы. Часам даводзіцца быць не толькі юрыстам, але і псіхолагам. А што рабіць, калі тэлефануе жанчына, якая тры гады не можа ўладкавацца на працу, а з яе патрабуюць падатак?! І яна плача і гаворыць, што кончыць жыццё самагубствам…» — распавёў праваабаронца.

Алег Волчак расказаў, што цягам двух месяцаў кансультацыі наконт таго, як паводзіць сябе з выплатай падаткаў на дармаедства, атрымалі болей за 10 тысяч чалавек. Амаль усе яны не збіраюцца выплачваць падатак.

Кіраўнік прафсаюзу РЭП Генадзь Фядыніч падкрэсліў, што ад першага дня акцыі будзе праводзіцца яе маніторынг. Кожны тыдзень падводзіцца папярэднія вынікі. Што рабіць далей, будзе найперш залежаць ад рэакцыі ўладных структур.

## Андрэй Курэйчык



**Знакаміты беларускі драматург і рэжысёр напісаў эмацыйныя лісты ў Адміністрацыю Лукашэнкі і Савет міністраў пра цяжкасці з пракатам беларускага кіно.**

Па яго перакананні, цяжкасці ствараюць чыноўнікі Міністэрства культуры, і ў прыватнасці кіраўніца дэпартамента кінематаграфіі гэтага міністэрства Ірына Белякова.

Паводле Курэйчыка, яна вінаватая ў тым, што пракатнае пасведчанне для апошняга твору Курэйчыка «Party-Zan фільм» давялося атрымліваць тройчы. «Яна выступала супраць беларускай карціны ў прэсе, абвінавачваючы ў залішняй рэкламе нашага фільма. {…} Яна не брала тэлефон, не адказвала на тэлефанаванні, «перамыкала» нас на розных супрацоўнікаў Мінкульта, якія нічога не вырашалі… Яна здзекавалася з кінематаграфістаў як магла, абы мінімізаваць нашы зборы, запалохаць кінатэатры, каб яны менш паказвалі беларускае кіно… Паводле нашых ацэнак, мы недаатрымалі прыкладна 40 працэнтаў нашых збораў з-за падкопаў гэтага бюракрата», — напісаў Курэйчык.

Пры гэтым ён адзначае, што «Party-Zan фільм» па зборах толькі на 20% саступіў расійскаму «Вікінгу» з бюджэтам у 20 мільёнаў долараў. І гэта без другога ўік-энду, які «ў нас «скраў» Мінкульт».

## Ігар Шуневіч



**Міністр унутраных спраў Беларусі, як высветлілася, ажыццявіў цікавую ініцыятыву.**

Нацбанк Беларусі 17 студзеня 2017 года выпусціў у абарачэнне памятныя манеты «Беларуская міліцыя. 100 год». На сайце Нацбанка так і напісана: аўтар ідэі — Шуневіч І.А.

Манеты выпушчаныя ў трох варыянтах: залатая наміналам у 50 рублёў (тыраж — 300 штук), срэбная наміналам 20 рублёў (тыражом у 3000 штук) і медна-нікелевая наміналам 1 рубель (тыраж — 5000 штук).

На адваротным баку ў цэнтры ў крузе размешчана рэльефная пагрудная выява трох мужчын у міліцэйскай форме розных часоў. Па крузе надпіс: «Беларуская міліцыя 100 год; служым закону народу айчыне».

На аверсе ўверсе размешчана рэльефная выява Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і надпіс па кругу «Рэспубліка Беларусь», у цэнтры — сімвал МУС Беларусі. Манеты адчаканены ў АТ «Манетны двор Польшчы».

Як паведамляе Нацбанк, выпушчаныя ў абарачэнне манеты з'яўляюцца законным плацежным сродкам Рэспублікі Беларусь, абавязковым да прыёму па намінальным кошце пры ўсіх відах плацяжоў без усялякіх абмежаванняў.

# Дызельныя рухавікі і вялікая палітыка



MRYABININ.LIVEJOURNAL.COM

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Беларусь у бліжэйшай будучыні можа спыніць закупы дызельных рухавікоў для МАЗаў у Расіі. Іх будуць выраблядь на сумесным кітайска-беларускім прадпрыемстве пад Мінскам. Расіяне ў шоку.**




На мінулым тыдні ў Пекіне адбыліся чарговыя перамовы па стварэнні ў кітайскім індустрыяльным парку «Вялікі камень» пад Мінскам сумеснага беларуска-кітайскага прадпрыемства па вытворчасці дызельных рухавікоў. Перамовы з беларускага боку вёў пасол Беларусі ў Кітаі Кірыл Руды, з кітайскай — віцэ-прэзідэнт карпарацыі «Weichai Power» Сюй Хун і віцэ-прэзідэнт «Weichai International» Лан Хуа. У прыватнасці, было ўзгоднена, што сузаснавальнікамі сумеснага прадпрыемства стануць група кампаній «Weichai» і МАЗ.

### Кітайцы дапамогуць рабіць дызелі

Між тым, яшчэ ў кастрычніку 2016-га, калі перамовы аб будаўніцтве заводу па выпуску дызеляў з «Weichai Power» вяло Міністэрства прамысловасці, меркавалася, што праект па стварэнні ў Беларусі вытворчасці дызельных рухавікоў будзе рэалізаваны з удзелам Мінскага маторнага заводу. Як распавядаў тады журналістам міністр прамысловасці Віталь Вовк, на Мінскам маторным заводзе (ММЗ) распрацаваная стратэгія развіцця да 2030 года і праграма па развіцці дызелебудавання з лінейкай рухавікоў ад 10 да 1,5 тысяч конскіх сіл.

«Па гэтай праграме нам неабходныя партнёры, таму што ўсю лінейку рухавікоў мы не выраблям, у нас няма для гэтага пакуль і магутнасцяў, і некаторай кампетэнцыі, — казаў міністр. — Таму мы вырашылі дамовіцца з кітайскай кампаніяй «Weichai Power». Супрацоўніцтва з ёй дазволіць нам мець скончаны цыкл у межах стварэння сілавога агрэгата, гэта значыць: рухавік, счапленне, каробка перадач. Сёння МАЗ практычна ўвесь гэты камплект купляе за межамі краіны».

Па словах Віталя Вовка, рухавікі «Weichai» МАЗ ужо выкарыстоўвае. Яны сертыфікаваныя па экалагічных класах Еўра-4 і Еўра-5, ёсць мадэлі Еўра-6. Магутнасць рухавікоў — ад 10 да некалькіх тысяч конскіх сіл.

### Ці трэба гэта Беларусі?

Тут адразу ўспамінаецца, што калі ствараўся кітайска-беларускі тэхнапарк «Вялікі камень», беларускія ўлады запэўнівалі: у ім будуць размяшчацца выключна вытворчасці пятага і шостага тэхналагічных укладаў (мікраэлектроніка, біятэхналогіі, нанатэхналогіі, новыя тыпы матэрыялаў і энергіі). Вытворчасць дызеляў да іх відавочна не адносіцца — затое пагражае навакольнаму асяроддзю. Не выпадкова абыякавае стаўленне кітайскіх прамыслоўцаў да пытанняў экалогіі «ўславіла» іх на ўвесь свет.

Мець уласную вытворчасць дызельных рухавікоў для грузавікоў Беларусі вельмі выгодна. Гэта дазволіць адмовіцца ад закупаў замежных (у асноўным расійскіх) рухавікоў для МАЗаў і амерыканскіх матораў «Cummins» — для БелАЗаў. Падобнае імпартазамяшчэнне дазволіць знізіць сабекошт грузавікоў і аўтобусаў МАЗ, а таксама паменшыць імпарт камплектуючых у прамысловасці. З іншага боку, выкарыстанне кітайскіх тэхналогій і камплектуючых прадказальна пагоршыць якасць і характарыстыкі рухавікоў беларускай тэхнікі.

«Гэта цалкам актуальна і карысна для Беларусі. Але тут трэба дэталі ведаць. Размова можа ісці аб дызелях магутнасцю больш 400 конскіх сіл, напрыклад, для МАЗа, і нават вельмі цяжкіх для БелАЗа, — сказаў «Новаму Часу» эксперт па прамысловасці Валянцін Лопан, які сам доўгі час працаваў на МАЗе. — Да таго ж МАЗ ужо рабіў выпрабавальныя ўзоры машын з газавым дызелем ад «Weichai». Пераважная большасць МАЗаў сёння абсталёўваецца дызелямі Яраслаўскага маторнага заводу (ЯМЗ). Гэта практычна ўсе грузавікі, акрамя некалькіх мадэляў седлавых цягачоў узроўню Еўра-5 або Еўра-6 і сярэднетанажных машын з рухавікамі ад Мінскага маторнага заводу (ММЗ). ММЗ таксама спрабаваў працаваць з расійскім Тутаеўскім заводам па цяжкіх маторах для БелАЗа. Не ведаю, фармальна можа яны і цяпер ёсць. Але ў выніку БелАЗ перастаў іх браць».

Па меркаванні міністра прамысловасці Віталя Воўка, кошт праекту па будаўніцтве ў Беларусі вытворчасці дызеляў сумесна з кітайцамі можа складсі $50–80 мільёнаў. Прычым гаворка ідзе толькі пра зборачную вытворчасць, без уліку вытворчасці камплектуючых.

### Расіяне ў шоку

Расійскі Яраслаўскі маторны завод уваходзіць у «Групу ГАЗ», якая, у сваю чаргу, з'яўляецца часткай холдынгу «Рускія машыны», што належыць алігарху Алегу Дэрыпаску. Вядома, што на неафіцыйным узроўні прадстаўнікі «Групы ГАЗ» ужо выказалі сваю незадаволенасць планамі будаўніцтва ў Беларусі ўласнага заводу па выпуску дызельных рухавікоў. Бо цяпер замовы ад МАЗа і БелАЗа складаюць досыць вялікую долю партфеля ЯМЗ, і без іх прадпрыемства рызыкуе стаць стратным.

«У яраслаўскі завод «Автодизель» было ўкладзена больш за 11 мільярдаў рублёў. Паколькі ў нас ёсць сілавы агрэгат, мы можам казаць аб паўнавартаснай уласнай вытворчасці тэхнікі. Уся наша прадукцыя ў перыметры «Рускіх машын», усе аўтобусы, усе грузавыя аўтамабілі абсталёўваюцца рухавікамі нашай вытворчасці. Дзякуючы гэтаму мы кантралюем якасць і сабекошт канчатковага прадукту, і можам прапанаваць спажыўцам канкурэнтаздольныя кошты, — сказаў у нядаўнім інтэрв'ю гендырэктар карпарацыі «Рускія машыны» Манфрэд Айбэк. — У частцы тэхналогій рухавік — гэта самы складаны кампанент аўтамабіля. На прыкладзе ўласнага абсалютна новага, сучаснага заводу ў Яраслаўлі мы давялі, што можам распрацоўваць і выраблядь рухавікі, аналагічныя лепшым сусветным узорам. Гэта вельмі важная частка нашага бізнесу — не толькі «Групы ГАЗ», але і «Рускіх машын» у цэлым».

«У лістападзе 2016-га на «Автодизеле» была запушчана серыйная вытворчасць новага газавага рухавіка. Гэта значыць, калі ў Беларусь са сваёй вытворчасцю прыйдуць кітайцы, то ў Яраслаўлі страцяць вельмі многае, — сказаў НЧ камерцыйны дырэктар расійскага прадпрыемства «Автосоюз» Пётр Братэрскі. — Страцяць не толькі цяперашнія замовы, першым чынам, МАЗа, але і перспектыўныя пастаўкі дызеляў, якія працуюць на газе. Прычым мы ведаем, якія маштабы вытворчасці ўласцівыя кітайцам. Калі ў Беларусі з'явіцца ўласная вытворчасць дызеляў, то яны могуць выйсці і на расійскі рынак, бо гэта будзе прадукцыя не замежная, а выраблёная ў ЕАЭС, унутры адзінай мытнай прасторы. А такая канкурэнцыя расійскім вытворцам зусім не трэба. Гэта значыць, дадзенае пытанне становіцца яшчэ і палітычным».

### Даведка НЧ

Улетку 2014 года МАЗ прадставіў газавы грузавік з індэксам МАЗ-534023-0000520-030. Ён атрымаў 280-моцны кітайскі газавы рухавік Weichai WP10NG280 экалагічнага ўзроўню Еўра-5. А ў сакавіку 2015-га быў прадстаўлены смецціявоз з задняй механізаванай загрузкай на шасі газаматорнага грузавіка МАЗ-534023. Навінка атрымала азначнік 590423-010 «Сапфір-Эка».

Новы смецціявоз з газавым дызельным рухавіком быў паказаны намесніку старшыні ААТ «Газпрам» Віталю Маркелаву, які прыехаў на МАЗ. Тады ж было абвешчана, што «Газпрам» гатовы садзейнічаць закупу расійскімі рэгіёнамі газаматорнай тэхнікі беларускай вытворчасці.

Сёння дызельныя рухавікі ў Беларусі выраблае ААТ «Кіруючая кампанія холдынгу «Мінскі маторны завод» (холдынг уключае шэсць прадпрыемстваў). Аднак рухавікі, выраблены на ММЗ, збольшага запатрабаваныя вытворцамі сельгастэхнікі — МТЗ і «Гомсельмашам». На грузавікі і аўтобусы МАЗ, а таксама на некаторыя малодшыя мадэлі БелАЗаў усталёўваюцца дызельныя рухавікі расійскага ПАО «Автодизель» (Яраслаўскі маторны завод).

# Філасофія міласэрнасці

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Калі майго добрага сябра Аляксандра Фядуту папрасілі зладзіць сустрэчу беларускіх журналістаў з валанцёрскім фондам, ён амаль адразу спыніў свой выбар на паплечніках Дыяны Макаравай, чыя рэпутацыя за час дзейнасці склалася ўзорна-бездакорнай.**





### Махляры як інфармацыйная зброя

Дапамогу гэтых людзей фронту можна адлюстраваць тонамі канкрэтных рэчаў і сотнямі тысяч выдаткаваных на гэта грыўняў, аднак яшчэ не было ніводнага выпадку, каб іх абвінавацілі ў несумленнасці. Момант прынцыповы: зараз па ўсім Кіеве гучаць папярэджанні не верыць махлярам, якія збіраюць «дапамогу на вайну», а карыстацца праверанымі структурамі.

Гэта праблема для сучаснай Украіны: шкоды хапае не толькі ад махлярства, але і ад таго, як яно падаецца грамадству. У папамінулым годзе быў літаральна ўсплёск інфармацыйнай вайны супраць валанцёраў. «УКантакце» і «Аднакласнікі» кішэлі кампраматам, дзе ўсе ўкраінскія валанцёры падаваліся не інакш як прайдзісветы.

У тым, што гэта была спланаваная і скаардынаваная акцыя фээсбэшных троляў, практычна ні ў каго сумневу няма. Заўважу толькі, што для правакацый (якія, на жаль, часам мелі пад сабой глебу) былі абраныя менавіта гэтыя сацыяльныя сеткі, а не папулярны сярод моладзі «Фэйсбук».

Калі верыць сацыёлагам, сярод валанцёраў дамінуюць людзі ва ўзросце ад 18 да 35 гадоў. Звычайна яны аддаюць перавагу «Фэйсбуку». У «УКантакце» і «Аднакласніках» аўдыторыя іншая: больш сталае пакаленне, якое не адвыкла верыць прапагандзе і амаль не падтрымлівае валанцёраў. Да таго ж, у гэтых сацсетак склалася даволі агідная рэпутацыя «пракрамлёўскіх рупараў».

Такім чынам, дзіда кампрамату была накіравана зусім не туды, дзе быў эпіцэнтр грамадскай дапамогі фронту.

### З паспяховых жанчын — у валанцёры

У недалёкім мінулым Дыяна Макарава — галоўны рэдактар украінскага сегмента livejournal. Рашэнне сысці з пасады нарадзілася на Майдане і матэрыялізавалася 22 студзеня 2014 года, калі снайпер забіў яе сябра Сяргея Нігаяна. Наступнай ахвярай, як вядома, стаў беларус Міхаіл Жызнеўскі.

Лагічна, што на Майдане Дыяна была намесніцай камандзіра так званай «інфармацыйнай сотні».

Трэба патлумачыць, што на Майдане існавала сорак «сотняў», якія непасрэдна былі на барыкадах. Ім дапамагалі ўмоўныя «сотні» — юрыдычная, інфармацыйная і нават швейная... Праз слёзы дзяўчаты глядзелі трансляцыі падзей на плошчы і шылі цёплыя рэчы для ўдзельнікаў таго, што пазней назавуць РЭВАЛЮЦЫЯЙ ГОДНАСЦІ.

Партрэт Сяргея Нігаяна з таго часу нязменна ў офісе фонду. Хаця офісам гэта назваць цяжка: у звычайным доме на ўскрайку Кіева няма не толькі так званага «планктону», але і «кабінетаў начальнікаў». Хутчэй, гэта — разбураны мурашнік, дзе пануе адчуванне дабрыні і міласэрнасці. А яшчэ — водар вайны. Дакладней, жаданне дапамагчы яе скончыць.

Ілюзій наконт хуткасці гэтай справы ні ў каго няма: у гісторыі не зафіксавана прыкладаў добраахвотнага сыходу акупантаў. Яны сыходзяць толькі тады, калі іх да гэтага прымушаюць.

### Ці грамадзянская вайна?

Для валанцёраў слова «АТА» — нешта накшталт ненарматыўнай лексікі. Усе разумеюць, што размова ідзе пра сапраўдную вайну, якую сусветныя палітыкі «далікатна» (мабыць, не хапае смеласці) называюць «антытэрарыстычнай аперацыяй».

Няма ілюзій і наконт таго, што ваююць з «укропамі» рэгулярныя расійскія войскі, закамуфляваныя пад «народныя рэспублікі», чаго «не бачаць» (альбо не хочуць бачыць) чыноўнікі з АБСЕ. Мабыць, ёсць «праблемы» і са слыхам, таму абстрэлаў сепаратыстаў яны таксама «не чуюць».

Хутчэй за ўсё, адбываецца гэта ад таго, што ў еўрапейскіх чыноўнікаў няма такіх «асабістых калекцый», якую збірае Дыяна Макарава. Складаецца яна з пацярпелай вайсковай амуніцыі, гільзаў, аскепкаў мін і ракет расійскіх «Градаў» з цынічнымі надпісамі на рускай мове: «С днем рождения. Дед Мороз»...

Іншаму чалавеку становіцца жудасна, але ў фондзе пра ўсё гэта распавядалі спакойна і без асаблівых эмоцый.

Дарэчы, «фонд» — гэта абрэвіятура, якая гучыць як «Фонд Оперативной Национальной Допомоги», то бок Ф.О.Н.Д. Знарок выкарыстоўваю украінскую мову, каб паказаць, наколькі яна блізкая да беларускай. Многія размовы ў фондзе вяліся з украінскага боку па-ўкраінску, беларускія журналісты размаўлялі па-беларуску. Нямала гучала і рускай мовы, і пры гэтым усе разумелі адзін аднаго.

Часцяком адбываецца і наўмысная падмена дэфініцый. Адносіны да «рускага свету» падаюцца за адносіны да «рускай мовы», а гэта, як кажуць у адным украінскім горадзе, дзве вялікія розніцы...

На пытанне, чаму прапаганда факусуецца менавіта на валанцёрах, адказ даволі просты. На мой погляд, гэта адбываецца таму, што ніхто не чакаў такой неабыякавасці грамадства.

Магчыма, мая думка спрэчная, але я ўпэўнены, што ўкраінскі досвед моцна напужаў не толькі тых, хто страціў кіеўскае Міжгор'е, пануе ў расійскай Рублёўцы альбо мінскіх Драздах. Ён ва ўсім свеце напужаў палітыкаў, якія лічаць свой народ «быдлам» і «паслухмяным электаратам».

### Як дапамагчы фронту?

Пра сутнасць работы фонду — слова самой Дыяне Макаравай:

«Мы — міралюбныя людзі. Не ваявалі вельмі даўно і ніколі не думалі, што давядзецца змагацца з тымі, каго доўгі час лічылі братамі. Да таго ж, рабілася ўсё, каб украінская армія была моцнай толькі на паперы. Напачатку вайны высветлілася, што ў рэальнасці яна распранутая і галодная.

Сёння сітуацыя ўжо іншая, а тады ўсім было зразумела, што аднай дзяржаве без дапамогі грамадства гэта не выправіць. Вайна — надзвычай дарагая рэч.

Мы не працуем на канкрэтным участку фронту альбо з канкрэтным батальёнам. Возім дапамогу тым, каму яна больш патрэбная. Салдаты самі вырашаюць, што ім трэба ў першую чаргу, і складаюць заяўкі. Звычайна гэта даручаецца таму, каму яны без абмежаванняў давяраюць. Гэта не залежыць ад «зорачак» на пагонах. Нямала выпадкаў, калі заяўкі прысылаюцца простымі байцамі, перадаюцца праз СМС... За тры гады нас добра ведаюць на фронце, і мы шмат з кім у прыязных адносінах, таму магчымасць усё праверыць ёсць заўсёды.

Самае складанае — не гэта. Вельмі цяжка выбраць, каму трэба дапамагчы ў гэтую хвіліну, а хто яшчэ можа пацярпець. Нядаўна ў мяне быў трагічны выпадак. Дапамогу свайму ўзводу прасіў баец Косця, але мне падалося, што яна тэрмінова патрэбна іншым, і я прасіла яго крыху пацярпець. Ён пагадзіўся. Калі ж чарга дайшла да яго, высветлілася, што Косці ўжо няма сярод жывых.

Мы — не ваенныя, не носім формы. Па-першае, не маем права. Па-другое, яе ўсё роўна давядзецца аддаць таму, каму гэта больш патрэбна. Памятаю, на самым пачатку дзейнасці на мне быў камуфляж. Аддала бушлат байцам, а потым усю зваротную дарогу дрыжэла, бо засталася ў танюткім джэмперы.

На фронце патрэбна літаральна ўсё — біноклі, цеплавізары, шапкі, рукавіцы, проста цёплыя рэчы, цвікі, сякеры, малаткі... Мы нават рэкламныя банеры навучыліся выкарыстоўваць для ўзмацнення бліндажоў, і зараз молім Бога, каб нехта прэзентаваў паўтоны гэтых рэчаў.

Філіялы фонду працуюць у Англіі, Італіі, Польшчы, Германіі, Аўстраліі, Канадзе і Беларусі. Яны звычайна складаюцца з украінскіх дыяспар, збіраюць грошы і купляюць неабходнае. Напрыклад, цеплавізары былі купленыя менавіта ў Беларусі».

Агульнавядома, што некаторыя з вайсковых камандзіраў і валанцёраў пайшлі ў палітыку. Вельмі спрэчная рэч. Мне таксама прапаноўвалі гэта, але я лічу, што кожны павінен займацца тым, што лепш за ўсё ўмее. Палітыка — не маё. Маё — дапамагаць тым, хто ваюе».

Пазіцыя не вельмі звычайная для нашага рацыянальнага часу. Асабліва калі ўлічыць украінскія падзеі. Размова пра электронныя дэкларацыі, якія сталі чымсьці накшталт палітычнага землятрусу. Шмат хто прыняў іх за «амністыю» і выклаў усе шкілеты з шафы, якія аказаліся не менш скандальнымі за сумнавядомы залаты батон Януковіча. Высветлілася, «для каго — вайна, а для каго — родная маці».

Што з гэтым рабіць? Гэта пытанне Аляксандр Фядута задаў падчас нашай сустрэчы. На яго Дыяна Макарава адказвае так:

— Сумна ўсё гэта. Байцы і раней здагадваліся, хто зарабляе грошы на іх крыві. Зараз гэта стала відавочна. Аднак хлопцы, якія цяпер ваююць, кажуць тое ж, што раней казала я: «Калі мы сыдзем, акопы, палітыя крывёй украінскіх салдат, імгненна зоймуць іншыя, сепары і расійскія вайскоўцы». Нашы байцы добра ведаюць, за што ваююць. У іх там родныя хаты, магілы загінулых сяброў. Гэта ІХ, гэта НАША зямля. Ніякія перавароты, ніякія новыя рэвалюцыі зараз немагчымыя яшчэ і таму, што гэтага не жадае ўкраінскі народ. Ён мудры і ніколі нікуды не спяшаецца. Робіць рашучыя крокі толькі тады, калі без гэтага, сапраўды, немагчыма.

Як і Дыяне Макаравай, мне вельмі хочацца, каб прагрэс на Усходзе Украіны, значна паскорыўся, бо шматлікія «мінскія перамовы» ўжо пачынаюць надакучваць.

### І традыцыйнае «замест пасляслоўя»

Я разумею, што некаторыя выкажуць папрокі наконт суб'ектыўнасці аўтара. Маўляў, для раўнавагі трэба было б паказаць супрацьлеглы бок. Цалкам згодны. Як і з тым, што ні на ёту не парушыў гэтую аксіёму.

Па-першае, няма часу і жадання правяраць розныя фэйкі накшталт «эльфаў», «рабоў» і «славянскіх хлопчыкаў». Па-другое, у гэтым няма неабходнасці, бо я ўпэўнены: у любым грамадзянскім супрацьстаянні вінаватая ўлада. Якога б колеру яна ні была. Жоўта-блакітная альбо проста блакітная, як гэта было ва Украіне тры гады таму. Менавіта ўлада Януковіча прымусіла людзей узяцца за зброю, бо іншых варыянтаў, каб абараніць сябе ад здзекаў чыноўнікаў, у іх не было. Не буду праводзіць ніякіх аналогій, але вельмі хочацца, каб гэта зразумелі і там, дзе зараз «стабільнасць».

**Фота Аксаны Аляксеевай**

# БХД 100 год таму:

Алесь КІРКЕВІЧ

**Гледзячы з пазіцый сённяшняга дня на БХД Станкевіча і Гадлеўскага, знаходзіш адначасна і шмат агульнага, і шмат рознага з іх сучаснымі нашчадкамі.**



Андрэй Вашкевіч размаўле з Анэляй Дзям'янчык з роднай вёскі Вінцэнта Гадлеўскага.2008 год, Шурычы

З аднаго боку, рэпрэсіі з боку аўтарытарнага рэжыму, курс на адстойванне незалежнасці, культурніцкая праца. З іншага — розны канфесійны склад, розныя мэтавыя аўдыторыі, ды і ці можна ўявіць, каб у кіраўніцтве сучаснай партыі ў Беларусі стаяў ксёндз альбо якая-заўгодна іншая духоўная асоба?

Пра генезіс БХД, якой сёлета спаўняецца 100 гадоў, распавядае даследчык гісторыі хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі Андрэй Вашкевіч.

— Нацыянальная самасвядомасць беларусаў, якія на 85–90% з'яўляліся сялянамі, пачала фармавацца толькі ў 1870–1890-х гадах. Дагэтуль нацыянальнымі катэгорыямі разважалі вышэйшыя саслоўі: шляхта, інтэлігенцыя, духавенства. Нават Паўстанне 1863 года не было паўстаннем нацыянальным, дзе б нехта рашуча казаў пра Польшчу, а нехта — пра Беларусь. Нават у Польшчы сялянства не падтрымала масава паўстання, бо не атаясамлівала сябе з польскай нацыяй. Гэты працэс пайшоў ужо пазней.

Толькі пасля адмены прыгоннага права ды Паўстання 1863 года пачалася нацыянальная крышталізацыя. Вызначэнне «я каталік», «я праваслаўны» пачало змяняцца на «я паляк», «я беларус», калі казаць пра канец XIX стагоддзя. З гэтым часам і звязана з'яўленне вялікага масіву польскай нацыянальнай меншасці на нашых землях.

Але ўжо на пачатку XX стагоддзя мы назіраем цікавы феномен: калі просты люд атрымаў больш шырокі доступ да адукацыі, з'яўляецца праслойка маладых вучняў каталіцкіх семінарыяў, якія пачалі сябе асэнсоўваць беларусамі.

***— Чаму хлопцы ішлі ў семінарыі ды як маглі ўсвядоміць там сябе беларусамі?***

— Уявіце сабе, што расце хлопчык, у якога ў хаце размаўлялі па-беларуску. Польскую мову ён чуў толькі ў касцёле. Калі ён адвучыўся ў народным вучылішчы і самастойна прапрацаваў курс гімназіі, то меў права здаць экзамен на аптэкарскага вучня. Пасля было два шляхі: юнкерская вучэльня, куды бралі ўсіх незалежна ад канфесіі, альбо — духоўная семінарыя. Трапіўшы ў апошнюю ўстанову, хлопцы атрымлівалі грунтоўную адукацыю, а ў дадатак — магчымасць назіраць за палякамі ды літоўцамі, самі ўжо задумваючыся пра свой нацыянальны шлях.

Так, напярэдадні Першай сусветнай вайны і Рэвалюцыі 1917-га з'явілася праслойка маладых адукаваных беларускіх святароў. Многіх мы памятаем, некаторыя амаль забытыя ў беларускім кантэксце. Напрыклад, ксёндз Генрык Бэта з ваколіц Саколкі, які пасля жыў у Польшчы, яшчэ перад Першай сусветнай вайной выдаў па-беларуску кнігу пра пчалярства. Іншы ксёндз — Юзэф Тшаска з таго ж рэгіёну — выпісваў «Нашу Ніву», ліставаўся з рэдакцыяй газеты. На пачатку XX стагоддзя дзясяткі маладых ксяндзоў усвядомілі сябе беларусамі.

***— А як на гэта рэагавала касцельная вертыкаль?***

— Нават тыя мясцовыя ксяндзы, якія лічылі сябе палякамі, на пачатку XX стагоддзя не бачылі ў беларушчыне нейкай катастрофы для сябе. Шмат хто з касцельных іерархаў да беларушчыны ставіўся спакойна, маўляў, калі насельніцтва гаворыць па-беларуску, значыць, трэба дапамагаць і гутарыць на зразумелай народу мове.

Гданьскі біскуп Эдвард О'Рурк, які паходзіў з Навагрудчыны і меў ірландскія карані, фінансава і ідэйна падтрымліваў беларусаў. Блаславёны Юры Матулевіч, літовец, таксама спрыяў беларушчыне... Такім чынам, напярэдадні і галоўным чынам цягам Першай сусветнай вайны шматлікія беларускія ксяндзы цалкам арганічна аселі ў сваіх парафіях, пачалі гаварыць казанні па-беларуску, выдаваць кніжкі на нашай мове. Такіх парафіяў у Заходняй Беларусі было каля дваццаці.

Але галоўным фактарам быў асяродак, створаны маладымі ксяндзамі, ды газета «Беларус», якая пачала выходзіць у 1913 годзе. Газета арыентавалася на каталікоў-беларусаў. Каталіцкі рух, як не дзіўна, апанаваў акурат у гады Першай сусветнай вайны Міншчыну, актыўна разгарнуўся ў Пецярбурзе, дзе ксяндзы вучыліся ў Рыма-Каталіцкай мітрапалітальнай акадэміі. Ужо ў маі 1917 года беларускія святары сабраліся ў Мінску і заснавалі Хрысціянска-Дэмакратычную Злучнасць, ад якой пазнейшыя хадэкі акурат і выводзілі сваю гісторыю.

***— Як выглядала сітуацыя пасля Рыжскага міру?***

— Як вядома, Беларусь апынулася падзеленая на дзве часткі. У БССР кагосьці са святароў забілі ці выслалі, некага — пасадзілі на гачок: ксяндзы «расхрышчваліся» альбо публічна сцвярджалі, што «не будуць




Памятная шыльда Гадлеўскаму, якую так і не павесілі ў Жодзішках

вызнаваць Ватыкан». Гэта былі ініцыятывы, санкцыянаваныя савецкімі спецслужбамі. У выніку беларускі хрысціянскі рух там быў цалкам знішчаны ўжо да сярэдзіны 1920-х гадоў.

Заставалася Заходняя Беларусь. Тут жыло каля мільёна каталікоў — прыкладна трэціна насельніцтва. З гэтай колькасці 100 тысяч складалі этнічныя літоўцы, пэўная частка — прыезджыя польскія вайскоўцы ды чыноўнікі. Але асноўная частка былі мясцовымі каталікамі. Калі ў той жа Галічыне сапраўды была значная колькасць этнічна польскага насельніцтва, то на нашых землях гэта былі «тутэйшыя» каталікі, якія ў большасці назваліся палякамі толькі напрыканцы XIX стагоддзя. Гэты мільён каталікоў апынуўся самай важнай апорай і зачэпкай польскай дзяржавы на нашых землях у той бурлівы час.

Польская дзяржава зразумела небяспеку беларусізацыі парафіяў, таму ў 1920-х гадах беларускіх ксяндзоў пачалі выціскаць: высылаць за этнічныя межы Беларусі, адпраўляць за мяжу «на вучобу» ці для місіянерскай работы. Семінарыі былі жорстка ўзятыя пад кантроль, таму перасталі прадукаваць свядомых беларускіх ксяндзоў. Чалавек, які на ўваходзе, запаўняючы дакументы, пісаўся беларусам, туды ўжо не трапляў.

***— А што наконт БХД?***

— Хадэцыі на пачатку 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі яшчэ не існавала як асобнай з'явы. Беларускі нацыянальны рух фармальна тады яшчэ быў адзіным. Большасць з тых беларускіх паслоў, хто прайшоў у польскі Сейм на выбарах 1922 года, былі настроеныя на супрацу з палякамі: высоўвалі шмат прапановаў наконт беларускіх школаў, зямельнай рэформы, інвестыцыяў у рэгіён, але палякі не зрабілі нічога, каб падтрымаць хаця б мінімальныя культурна-гаспадарчыя патрабаванні беларусаў.

Як вынік, адбываецца радыкалізацыя мас. А тут акурат бальшавікі ў БССР пачынаюць даказваць беларусам: «Не трэба вам незалежнасці. У БССР будучыня Беларускі Дом». Тады Адам Станкевіч выступіў ініцыятарам стварэння шырокага беларускага руху, якім меў стаць Беларускі сялянскі саюз (БСС).

Бальшавікі пра гэта ведалі ды спрабавалі БСС падпарадкаваць сабе. Маё меркаванне, што на гэтую ролю рыхтавалі сенатара Васіля Рагулю. Той, аднак, шчыльна звязаў сябе са справай незалежнасці і хадэкамі. Тады была створана пракамуністычная «Грамада». Быў выкарыстаны менавіта рэцэпт Станкевіча: шырокі рух са стаўкай на беларускае сялянства. Рух меўся быць агульным, выконваць аб'яднаўчыя функцыі, але Браніслаў Тарашкевіч і яго каманда, завязаўшы ўсё на СССР, прывялі яго да краху.

***— Як вынік, Адам Станкевіч стварыў сваю партыю?***

— Калі ўсё стала зразумела, Адам Станкевіч абраў іншую тактыку: так, увосень 1926 года была створана БХД. Як партыя яна існавала менш за 10 гадоў: з кастрычніка 1926 па люты 1936 года. У Еўропе на той момант ужо існавала паняцце «хрысціянскай дэмакратыі» ў палітыцы. Да прыкладу, нямецкі хадэцкі рух быў створаны яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя.

Беларускія хадэкі адразу занялі сваю спецыфіку на агульнаеўрапейскім фоне. Па-першае, БХД катэгарычна ставіла пытанне пра незалежнасць, якое не стала для тых жа немцаў. Гэта была адзіная арганізацыя ў краіне, якая на той момант паслядоўна адстойвала гэтую пазіцыю ды карысталася ўплывам у масах. У БССР падобныя партыі былі знішчаныя. У Заходняй Беларусі эсэраў ужо не было, камуністы падтрымлівалі СССР, прапольскія беларускія партыі — Польшчу.

Па-другое, БХД радыкальна ставіла сялянскае і зямельнае пытанне. Заходнееўрапейскія хадэкі ж працавалі амаль выключна сярод рабочых. У Заходняй Беларусі гэта было цяжка, бо рабочыя былі збольшага яўрэямі, ды і прадпрыемстваў было не так шмат. Па-трэцяе, дзве трэціны насельніцтва ў Заходняй Беларусі былі праваслаўнымі. То бок сацыяльная база — партыя арыентавалася на каталікоў — аўтаматычна звужалася.

***— Ты кажаш пра ўплыў на масы, але як гэта рэальна выглядала?***

Да канца 1920-х гадоў беларускіх ксяндзоў на парафіях ужо амаль не засталося. Самы характэрны прыклад, які стаў вядомы па ўсёй Польшчы — гэта гісторыя ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. На пачатку 1920-х гадоў біскуп Матулевіч прызначыў яго ў мястэчка Жодзішкі на Смаргоншчыне. Гадлеўскі, які прыехаў у 1922-м, ужо ў 1924 годзе пачынае весці набажэнства па-беларуску. Ён не ўводзіў беларушчыну за адзін дзень: чаргаваў. З часам на польскія службы пачало хадзіць усё меней парафіянаў. Хутка ксёндз стаў маральным аўтарытэтам, каб паслухаць яго казанні, людзі пачалі прыходзіць з вакольных парафіяў.

Улады зразумелі, што гэта запалка. І калі яна запаліць іншых, і агонь пойдзе далей, польскаму панаванню прыйдзе канец: калі 800 тысяч «касцельных» палякаў перастануць лічыць сябе палякамі — польскія ўлады страцяць пад нагамі ўсялякую глебу і маральнае права валодаць гэтымі землямі.

У выніку касцельныя ўлады арганізавалі ў Жодзішках плебісцыт. Прыехалі ксяндзы, падзялілі парафіянаў: маўляў, хто за беларускую мову — «направа», за польскую — «налева», утварыўся балаган... Калі паліцэйскія паставілі на званіцы кулямёт: народ разбегся. У выніку, Гадлеўскага пасадзілі ў турму, але не за інцыдэнт у Жодзішках, а за «антыдзяржаўную дзейнасць». Гэта былі плёткі, маўляў, калі Гадлеўскі бачыў партрэт Пілсудскага ў хаце, то адмаўляўся яе асвячаць, і далей у такім духу.

***— Ёсць польскія законы, але ёсць міжнароднае касцельнае права: як падобныя выпадкі маглі мець месца?***

— У 1925-м быў заключаны канкардат паміж Ватыканам і Польшчай, які паставіў крыж на ўсіх беларускіх ініцыятывах у касцёле. Ані пробашча, ані біскупа нельга было прызначыць без згоды Рады польскіх біскупаў. Ніводзін свядомы беларус пробашчам касцёлу ўжо стаць не мог. Нельга было змяняць мову службаў. Гэта было фармальнае і прававое афармленне ўціску беларушчыны ў касцёле.

Наогул, мяжа 1920–1930-х — вельмі цяжкі час для БХД. З аднаго боку, палякі змагаюцца з БХД не менш жорстка, чым з камуністамі. Хадэкаў арыштоўваюць, праводзяць вобшукі. Структураў партыі на мясцовасці амаль не было. Бо калі на вёсцы ты казаў, што з'яўляешся актывістам БХД, то меў праблемы з паліцыяй. Таму мы не ведаем, колькі было чальцоў у БХД: яны рэстраваліся праз Вільню.

***— Хадэкам зноў трэба было змяняць стратэгію...***

— У выніку, легальным прадстаўніцтвам БХД стаў Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГІК). Гэта была легальная асветніцкая арганізацыя. Як у камуністаў было Таварыства беларускай школы (ТБШ), так у БХД — БІГІК. Яго чальцы вывучалі гісторыю, стваралі тэатральныя гурткі, ладзілі бібліятэкі, будавалі «народныя дамы», спрабавалі закладаць школы, праводзілі школьныя плебісцыты наконт мовы навучання.

У Вільні БІГІК займаўся друкам, прычым не толькі патрыятычнай і рэлігійнай літаратуры, але і гаспадарчай: брашуры аб пчалярстве, ураджаях, доглядзе за жывёламі. Хадэкі падавалі заяўкі на рэгістрацыю вялікай колькасці беларускіх школаў,

# забытыя перамогі

але атрымалася стварыць толькі дзве: Шаўляны (Віцебшчына) і Рудаўцы (Баранавіччына).

***— Як гэтая дзейнасць выглядала?***

— Галоўная сфера ўплыву інстытуту — Віленшчына: Смаргонь, Ашмяны, Вілейшчына, Валожыншчына. Часткова — Баранавіччына, ваколіцы Нясвіжа. Гурткоў інстытута па Заходняй Беларусі зафіксавана каля 50–70. Адначасна ў БІГІК магло працаваць каля 1000 чалавек — але гэта былі рэальныя актывісты, а не «мёртвыя душы». Наогул жа, праз БХД і яе структуры ў розныя часы прайшло, я думаю, не менш за 5 тысяч чалавек.

Час ад часу на 25 сакавіка ў вёсках Заходняй Беларусі хадэкі развешвалі бел-чырвона-белыя сцягі, таксама як камуністы развешвалі чырвоныя. Ёсць звесткі пра ваколіцы Смаргоні, дзе паліцыя канфіскоўвала сцягі ў хадэкаў нават па хатах: сябры партыі цвёрда трымаліся незалежніцкага курсу. Агулам жа фармат дзейнасці быў культурніцкім, кааператыўным, эвалюцыйным. Як тады, так і зараз БХД магло б быць паспяховай партыяй, але ва ўмовах рэальнага парламентарызму ў дзяржаве.

***— Як выглядалі стасункі паміж хадэкамі ды заходнебеларускімі камуністамі?***

З боку КПЗБ супраць БХД ішла інфармацыйная вайна: хадэкаў кляймілі «агентамі», «прадажнікамі»... У 1934 годзе нават была выдадзеная кніжка «Як беларуская хадэцыя гандлюе крывёю беларускіх рабочых і сялян». Яна напісаная на аснове паказанняў пасла Паўла Карузы, які быў абраны ад БХД у 1927 годзе, а пасля знік. Намаляваўся ён толькі пасля вайны ў Польшчы — там жыў і памёр.

Аказалася, што на пачатку 1930-х гадоў ён апынуўся ў Мінску — пасля пісаў, што «выманілі». У БССР яго ўзялі ў абарот чэкісты, і той распавёў шмат унутранай інфармацыі пра сваю партыю: напрыклад, пра тое, што канфіскацыі газеты «Крыніца» нібыта адбываліся па дамоўленасці Станкевіча і паліцыі — усё на аснове асабістых здагадак. Была і поўная лухта, маўляў, палякі далі БХД на выбары 1927 года... дзясяткі тысяч злотых! З паказанняў Ластоўскага нібыта былі вычапленыя факты, маўляў, хадэкі займаліся перадзелам спадчыны нейкага сваяка Пілсудскага — сотні тысяч злотых... І далей у такім стылі.

Але ў сярэдзіне 1930-х камуністам было дадзенае зялёнае святло на супрацу з нацыянал-дэмакратычнымі партыямі. Таму і адбылася спроба зацягнуць БХД у «Народны Фронт»: камуністы шукалі саюзнікаў. Аднак адкрытай супрацы не было, пра кантакты ведалі адзінкі.

Рэальныя стасункі паміж хадэкамі ды нізавымі камуністамі на месцах былі цалкам іншымі. Часта «правыя» і «левыя» актывісты паходзілі з адных сем'яў. Напрыклад, бацька камуністычнага паэта Валянціна Таўлая Павал узначальваў гурток БІГІК у вёсцы Рудаўка пад Баранавічамі. Мачыха, Стэфанія Таўлай, была дырэктаркай беларускай школы ў той жа вёсцы, якую фінансаваў Гадлеўскі і Станкевіч. Такіх гісторыяў шмат.

Супраца на месцах — гэта яшчэ і абмен друкаванай прадукцыяй, і грашовыя аперацыі: вядомыя выпадкі, калі тайныя камуністы на вёсках фінансава дапамагалі дзейнасці БІГІК. Гадлеўскі лічыў такую супрацу памылковай, спрабуючы трымацца цалкам незалежніцкай лініі. Яго пазіцыя была «крытыкай Станкевіча з правага боку».

***— Адкуль насамрэч былі грошы ў партыі?***

— Некалькі сяброў БХД былі пасламі Сейма. Зараблялі шмат: за адзін месячны заробак можна было купіць пару гектараў зямлі. Ксяндзы, якія жылі за мяжой, кшталту Пятра Татарыновіча, пастаянна пералічвалі БХД грошы: абклалі сябе «добраахвотным падаткам». Нешта давала Літва, але гэта былі адзінкавыя выпадкі, а не бесперапынны паток «грантаў». Складкі шарагоўцаў у лепшым выпадку забяспечвалі фінансаванне канкрэтнага гуртка на мясцовасці: кнігі, памяшканні, рэчы для тэатральных пастановаў.




**«Ці будзе вайна?» — галоўнае пытанне газеты Станкевіча ў 1939 годзе.** Фота аўтара



**Адам Станкевіч на партрэце Пятра Сергіевіча**




**Такімі карыкатурна малявалі хадэкаў беларускія камуністы**

Хадэкі зрабілі геніяльны крок, купіўшы ў 1926 годзе частку друкарні «Люкс» у Вільні і заснаваўшы Друкарню імя Францішка Скарыны. Гэтая друкарня да 1939 года выдала больш за 150 кніжак. Гэта былі як патрыятычныя, так і камерцыйныя замовы. Без яе наогул цяжка сабе ўявіць заходнебеларускае культурнае жыццё таго часу. Яны друкавалі процьму газет і часопісаў, нават таго ж клубу «Змаганне», які трымаўся «левай» арыентацыі.

***— Дык БХД знікла ў выніку расколу?***

— У 1936 годзе адбыўся апошні моцны ўсплёск нацыянальнага руху перад вайной. Хадэкі, у асобе БІГІК, аб'ядналі высілкі з ТБШ, выдаўшы адозву «За родную школу». Пачалася вялікая кампанія. Уладам былі пададзеныя дзясяткі тысяч дэкларацыяў за школы па-беларуску. Палякі адказалі на гэта зачысткай у канцы года: дзясяткі арыштаў ды вобшукаў, у тым ліку ў Адама Станкевіча. На пачатку наступнага 1937-га ўлады афіцыйна зачыняюць ТБШ і БІГІК.

***— Падчас вайны шмат хто з беларускага актыву легалізаваўся праз супрацу з немцамі. Што наконт БХД?***

— Адам Станкевіч падчас вайны не заангажаваўся ў палітычныя ініцыятывы, хоць яго і схіляў да гэтага Радаслаў Астроўскі: прапаноўваў пасаду ў Беларускай Цэнтральнай Радзе. Блізкія да Станкевіча людзі трымаліся такой жа пазіцыі. Пэўная частка трапіла ў нямецкую адміністрацыю, але збольшага займалася культурай і адукацыяй.

Ёсць сведчанні пра сувязі Станкевіча з партызанамі, пра тое, што ён хаваў яўрэяў, смаргонскіх камсамольцаў, нейкіх акружэнцаў. Кажуць, што ён хаваў у касцёле нават намесніка кіраўніка савецкай Вільні. Цікава, што ў 1970–1980-я гады пра гэта пісаў нават «Голас Радзімы». Савецкая ўлада мусіла б даць яму медаль за гэта!

***— Мажліва, акурат таму Станкевіч і дажыў ажно да 1949 года?..***

— Дажыў, бо спрабаваў давесці савецкай уладзе, што ёй трэба беларусізаваць касцёл: пісаў даклады, запіскі. Планаваў сабраць для гэтага святароў, дамагчыся, каб некага выпусцілі з турмаў. Маўляў, дайце нам адчыніць касцёлы і служыць па-беларуску, і мы будзем лаяльнымі да вас. Яму паставілі ўмову: адрачыся ад Ватыкану, крытыкаваць Папу як імперыяліста і г.д.

Станкевіч адмовіўся стаць «чырвоным біскупам». Цікава, што ў сваім дзённіку Станкевіч назваў нкусаўца, які яго пераконваў, «Мефісто» — спакушальнік. Калі стала зразумела, што перамовы нічым не скончацца, яго арыштавалі і прысудзілі да 25 гадоў. Дарога ў лагер трывала амаль месяц, таму ўжо не малады і хворы Адам Станкевіч памёр літаральна адразу па прыездзе.

***— Як склаўся лёс Вінцэнта Гадлеўскага?***

Гадлеўскі, як вядома, быў галоўным школьным інспектарам у Генеральнай акрузе Беларусь. Зрэшты, гэта не ўратавала яго ад расстрэлу гестапаўцамі на каталіцкае Божае нараджэнне 1942 года... Месца пахавання Вінцэнта Гадлеўскага невядомае, таму ў Трасцянцы пад Мінскам стаіць сімвалічны крыж ягонай памяці.

Цікава, што мястэчка Жодзішкі, дзе ў 1920-х гадах працаваў Гадлеўскі, падчас вайны стала адным з магутных цэнтраў беларускага руху. Школа і дакументацыя вяліся па-беларуску, быў створаны свой атрад Самааховы. У 1943 годзе ў мястэчку прайшла зачыстка, арганізаваная мясцовым аддзелам Арміі Краёвай... Забівалі нават старых дзеячаў БХД, якім было па 70 гадоў і якія не супрацоўнічалі з немцамі. Касцельнага арганіста Тамаша Трызну застрэлілі ў ложку разам з жонкай.

Тады ж быў забіты брат Станкевіча Валянцін — асобамі, якія прынамсі фармальна паказвалі сябе акаўцамі. На Смаргоншчыне вядома яшчэ некалькі выпадкаў забойстваў міжваенных беларускіх актывістаў (у тым ліку і хадэкаў) менавіта акаўскімі падраздзяленнямі. Логіка тут зразумелая: хто ў ваеннай завірусе будзе шукаць вінаватых? А палітычнае поле для пасляваеннага часу можна зачысціць... Некаторыя з хадэкаў былі расстраляныя немцамі.

***— У тых жа Жодзішках зараз памятаюць Гадлеўскага?***

— Так, і Гадлеўскага, і БХД там памятаюць дагэтуль. Дарэчы, найбольшую колькасць падпісаных па-беларуску магілаў, сярод якіх ёсць нават помнікі 1980-х гадоў, я бачыў акурат у Жодзішках. Для каталіцкага мястэчка гэта нешта неймавернае. І ўсё гэта зрабіў адзін чалавек. А калі б такіх была сотня?.. Усё, Беларусь выглядала б па-іншаму.

***— Ці можна неяк падсумаваць вынікі дзейнасці міжваеннай БХД?***

— Я лічу, што БХД зрабіла, як мінімум, дзве рэчы, якія маюць быць прапісаныя ў нашых падручніках па гісторыі. Па-першае, хадэкі давялі, што каталікі могуць быць беларусамі. Паводле перапісу 1921 года беларусамі сярод каталікоў Заходняй Беларусі запісалася каля 60 тысяч чалавек. У 1931-м — ужо каля 80 тысяч. З аднаго боку, рост невялікі і яго можна спісаць на блытаніну статыстыкі, але ўлічыце, што гэта адбывалася нягледзячы на агрэсіўную палітыку паланізацыі праз усе дзяржаўныя ўстановы ды той жа касцёл. Беларусы — выстаялі.

Па-другое, гэта была партыя, якая пранесла ідэю незалежнасці Беларусі праз 1920–1930-я гады, зрабіўшы гэта годна, будучы прыкладам і для каталікоў, і для праваслаўных. БХД стварыла фантастычны культурны прэцэдэнт. Калі мы гаворым пра культуру Заходняй Беларусі ў міжваенны час, то згадваем часопіс «Калоссе», сотні выдадзеных у Вільні кніжак ды газет, якія мы маем дзякуючы хадэкам. Заўважце, што друкаваліся там і іх апаненты: той жа камуніст Максім Танк.

***— Чаму гістарычная роля БХД зараз забытая?***

— Пасляваенная эпоха вымыла нават глебу для ўспамінаў і размоваў пра БХД. Масы людзей пасля вайны запісаліся палякамі і з'ехалі, каб пазбегнуць рэпрэсіяў ды іншых акалічнасцяў жыцця ў «савецкім раі». Віленшчына стала літоўскай. Касцёлы зачыняліся. Ксяндзоў альбо павысылалі, альбо пазабівалі. Вядома, што касцёл у Вішневе быў адзіным, дзе ксёндз Чарняўскі ў савецкі час вёў набажэнствы па-беларуску.

***— БХД зараз існуе ў выглядзе партыі, хай і не зарэгістраванай. Ці назіраеш ты пэўную пераемнасць паміж міжваенным БХД і сучасным аднайменным рухам?***

— Тое БХД, якое было ў 1920–1930-я гады, больш ніколі не паўторыцца. Хаця б таму, што на 80% было каталіцкім рухам. Сёння ж там і пратэстанты, і ўніяты, і праваслаўныя. Цікава, што ўсё гэта адбываецца пры мінімальным удзеле святароў, у адрозненні ад міжваеннага часу: лідары сучасных хадэкаў — свецкія асобы. Але ідэйная пераемнасць, безумоўна, прысутнічае.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Трэба будзе плаціць за пераход вуліцы?

У Расіі пастунова набірае хаду прэзідэнцкая выбарчая кампанія 2018 года. Пачалі варушыцца і камуністы, якія ў сакавіку пачынаюць дэбаты наконт свайго кандыдата. У прынцыпе, усе ведаюць, што ім так ці інакш будзе цяперашні кіраўнік КПРФ Генадзь Зюганаў. Тым не менш, барацьба за кандыдацтва абяцае быць гарачай, бо той, хто прыйдзе ў конкурсе другім, відавочна становіцца асноўным прэтэндэнтам у пераемнікі старога лідара камуністаў. З улікам таго, што стаўкі вельмі высокія, у ход ідзе надзвычайны папулізм. Далей за ўсіх пайшоў дэпутат-камуніст Валерый Рашкін. Ён выкрыў падступны «план ураду Мядзведзева» ўвесці плату за пешаходныя пераходы, які вось-вось будзе прыняты. «Павінны стаць платнымі ўезды ў гарады, на пэўныя вуліцы, у двары. Яны называюць гэта «рэгуляваннем пешаходнага і транспартнага руху» ў межах суб'ектаў. Сюды падпадаюць платныя веладарожкі, а таксама падземныя і наземныя пераходы», — сцвярджае дэпутат. Паводле яго слоў, усе неабходныя нормы ўжо прапісаныя ў адзіным пакеце законаў, які вось-вось прыме Кабмін РФ. Цікава, што прэс-служба ўраду Мядзведзева інсінуацыі Рашкіна не каментуе.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. ГУАМ адраджаецца?

Падчас сустрэчы з малдоўскай калегай на мінулым тыдні прэм'ер Украіны Уладзімір Гройсман агаломшыў публіку сенсацыйнай навіной. На люты ў Кіеве запланаваная сустрэча кіраўнікоў урадаў аб'яднання ГУАМ. ГУАМ (Грузія, Украіна, Азербайджан, Малдова) — арганізацыя постсавецкіх краін, якія былі незадаволеныя праектам СНД праз тое, што там усё вырашала Масква. ГУАМ (пазней на нейкі час да яго далучыўся Узбекістан) быў заснаваны ў 1999-м, аднак дзейнічаў спарадычна. Апошні ўсплёск актыўнасці прыходзіцца на часы, калі пры ўладзе ва Украіне знаходзіліся «аранжавыя». З тых часоў сустрэчы ГУАМ на высокім узроўні не праводзіліся, пакуль Гройсман на днях не анансаваў лютаўскі саміт аб'яднання, на які таксама запрасілі Казахстан. Праўда, трэба прызнаць, што рэанімацыя праекту знаходзіцца пад пытаннем. Не толькі таму, што Масква можа ўстаўляць палкі ў колы. Стан ураду Гроймана вельмі хісткі праз эканамічную і палітычную нестабільнасць, і цяжка прагназаваць, што будзе з ім у лютым.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### СЛАВЕНІЯ. Жывёлы супраць муроў

Свет ахапіла мода на пабудову памежных муроў. Некаторыя краіны — ЗША або Венгрыя, — збіраюцца з іх дапамогай вырашыць праблему нелегальнай міграцыі. Іншыя (Літва або Украіна) — адмяжавацца ад агрэсіўнага расійскага суседа. Між тым, нечакана ў аматараў муроў узнікла праблема пад назвай «фаўна». Прэзідэнт меў месца ў Славеніі, дзе мясцовыя ўлады не так даўно прэзентавалі праект муру, што павінен спыніць націск мігрантаў, якія рухаюцца ў краіну праз Харватыю з Сірыі і Афрыкі. Грамадства не супраць бар'ераў, але супраць эколагі. Апошнія лічаць, што такі мур парушыць лакальныя маршруты міграцыі жывёл, а менавіта мядзведзя, ваўка і рысі. Усе яны ў выніку з'яўлення муру супраць мігрантаў могуць папросту знікнуць. Эколагі ў шоку, паколькі мясцовых рысяў, якіх раней цалкам знішчылі, давялося штучна адраджаць у пачатку 1970-х гадоў. На думку прэсы, падобная праблема ўзнікне і ў іншых дзяржаў, якія задумалі ўзводзіць муры на межах.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Грамадзянскай вайны не было?

З такім радыкальным тэзісам выступіла група іспанскіх левых гісторыкаў. А што ж тады было ў 1936–1938 гадах у Іспаніі, калі генерал Франка ўзняў мяцеж супраць рэспублікі? А была сапраўдная іншаземная інтэрвенцыя, кажуць аўтары новай гістарыяграфічнай канцэпцыі. У доказ яны прыводзяць лічбу іншаземцаў, якія змагаліся на баку Франка. Гэта 10 тысяч італьянцаў, 8 тысяч партугальцаў, 18 тысяч немцаў і, нарэшце, 80 тысяч мараканцаў. Менавіта гэтыя людзі складалі касцяк франкістаў. «Неіспанскасць» франкістаў таксама, быццам бы, выявілася ў іх брутальным стаўленні да іспанскага насельніцтва, пра што сведчыць лёс гораду Герніка, які ўшчэнт разбамбілі немцы. Няўжо б такое мог зрабіць іспанец у дачыненні да суайчыннікаў, пытаюцца гісторыкі. Акрамя таго, грошы, тэхніку, і нават стратэгічныя вайсковыя планы, іспанскія фашысты атрымлівалі з-за мяжы, ад Гітлера і Мусаліні. Нягледзячы на ўсе важкія аргументы, версія пра іншаземную інтэрвенцыю падаецца неадназначнай. У Іспаніі на той час было мноства кансерватараў і клерыкалаў, якія горача віталі працаўнікаў рэспублікі і ахвотна папаўнялі іх шэрагі, нават калі тыя былі іншаземцамі.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Хто супраць Меркель?

Алег НОВІКАЎ



Фота www.surfingbird.ru

**Да канца студзеня нямецкія сацыял-дэмакраты павінны вызначыцца з кандыдатам на пасаду канцлера. Ці ёсць у прадстаўніка апазіцыі шанец выйграць выбары ў Ангелы Меркель?**

Яшчэ ўвосень 2016-га, за год да выбараў у Бундэстаг, аўтары сатырычнай праграмы «Die Anstalt» з канала ZDF, адзначылі: «Уся інтрыга наступных выбараў — будзе Меркель кіраваць адна або кіраваць разам з сацыял-дэмакратамі». Пакуль нішто не сведчыць, што гэты прагноз не спраўдзіцца. Паводле ўсіх апытанняў, хрысціянскія дэмакраты — па-ранейшаму фаварыты выбарчай гонкі. Максімум, што свецяць эсдэкам, — у чацвёрты раз стаць малодшымі партнёрамі Ангелы Меркель.

Тым не менш, капітулявацць Сацыял-дэмакратычная партыя (SPD) не збіраецца. Наадварот, зараз назіраецца незвычайная актывізацыя, выкліканая выбарамі свайго кандыдата на пасаду кіраўніка ўраду. Лічыцца, што ўдалая кандыдатура — палова справы. Прынамсі, віцэ-старшыня партыі Олаф Шольц упэўнены, што асоба кандыдата можа дадаць партыі 10 працэнтаў у рэйтынгах (зараз за эсдэкаў гатовыя галасаваць 20–23 працэнты).

Асноўных прэтэндэнтаў у кандыдаты два — цяперашні партыйны кіраўнік Зігмар Габрыэль і Марцін Шульц. Апошні нядаўна пакінуў пасаду старшыні Еўрапарламента, каб вярнуцца ў нямецкую палітыку.

Ідэалагічная розніца паміж Габрыэлем і Шульцам, на першы погляд, невялікая: абодва належаць да цэнтрысцкіх колаў партыі. А вось стыль у палітыкаў вельмі розны. Зігмар Габрыэль падчас прыняцця рашэнняў часта кіруецца эмоцыямі і інстынктам, не прымае іншых поглядаў. Габрыэль жорстка стаіць на пазіцыі, што як бы ні скончыліся выбары, больш не ўваходзіць у кааліцыю з хрысціянскімі дэмакратамі. Яго валюнтарысцкія манеры зрабілі яму супярэчлівы імідж нават сярод аднапартыйцаў. Як піша прэса, палова партыі бачыць у ім месію, а другая палова, наадварот, трымае за амбіцыйнага неадэквата.

Марцін Шульц не такі катэгарычны ў пытанні блоку з кансерватарамі. Наадварот, на гэты раз кааліцыя можа быць паспяховай формулай для партыі. У выпадку, калі цяперашні фармат аб'яднання захаваецца, Шульц з яго высокім аўтарытэтам былога кіраўніка Еўрапарламента здолее на роўных размаўляць з канцлерам. Цяперашнія эсэдкі, што ўваходзяць ва ўрад, відавочна мелі комплексы падчас камунікацыі з Меркель.

Лічыцца, што Шульц дыпламатычнымі сродкамі можа навязаць сваю павестку дня нават у меншасці. У гэтым ён сапраўды вялікі спец. У якасці спікера Еўрапарламента ён дамагаўся выгадных для сябе кампрамісаў па шэрагу вельмі складаных пытанняў накшталт крызісу еўра або праблемы ўцекачоў. З іншага боку, ці запатрабаваныя такія крытэрыі, як асцярожнасць і такт, падчас выбарчай кампаніі?

Пакуль большасць экспертаў аддае перавагу Шульцу. Згодныя і простыя бюргеры. 54 працэнты апытаных лічаць, што Шульц больш адпавядае якасцям старшыні ўраду. Унутры

**Нягледзячы на перавагу Меркель над апанентамі, яе перамога не выглядае гарантаванай. Падзеі мінулага года прымусілі па-іншаму глядзець на працэсы ў Еўропе**

партыі Шульцу сімпатызуюць 42 працэнты, а Габрыэлю — 35. Ёсць такія, хто лічыць, што фронтмэн партыі павінен, наадварот, як мага менш свяціцца на выбарах. Перамогу, на іх думку, забяспечыць не харызма лідара, а лозунг «За сацыяльную справядлівасць», які трэба творча данесці да выбаршчыка.

Як бы ні ставіліся да Шульца або Габрыэля, пакуль канчаткова не зразумела, за кошт якіх прыёмаў нехта з іх можа ўсур'ёз змагацца з Меркель. Яна за 12 гадоў на пасадзе канцлера стала фактычна дзяржаўным інстытутам. Некаторыя нават скардзяцца, што культ Меркель пахаваў нямецкую палітыку. Гледзячы на выніківі апытанняў, грамадства гатовае прабачыць ёй нават такія непапулярныя крокі, як прадстаўленне прытулку для прыкладна мільёна ўцекачоў.

Нягледзячы на негатыўныя індыкатары, у доме імя Вілі Брандта (так называецца галоўны офіс SPD) агучваюцца некалькі фактараў, якія быццам бы зробяць перамогу на восеньскіх выбарах непазбежнай. Па-першае, відавочна, што частка немцаў ад Меркель сапраўды банальна стамілася. Нездарма на ўсіх апошніх зямельных выбарах Саюз хрысціянскіх дэмакратаў дэманстраваў слабыя вынікі. Апазіцыйныя настроі ўзмацняе цяперашні крызіс еўраструктураў, дзе меркелеўская Германія адыгрывае вядучую партыю.

Па-другое, у Еўропе яўна пануе мода на пратэстнае галасаванне, рэактыўнае жаданне выказаць незадаволенасць на адрас істэблішменту. Трэнд яшчэ больш могуць замацаваць сакавіцкія выбары ў Нідэрландах і красавіцкія ў Францыі, ад якіх чакаюць чарговых электаральных сюрпрызаў. Як следства, нельга выключыць, што ў немцаў можа з'явіцца жаданне прагаласаваць за любога, акрамя ўрадавай партыі. Праўда, за такім сцэнарам альтэрнатывай Меркель у вачах грамадства могуць выступаць не эсдэкі,а правыя папулісты.

Застаецца ўзгадаць, што напярэдадні федэральных выбараў нас чакае яшчэ шэраг зямельных выбараў, у тым ліку ў зямлі Паўночная Рэйн-Вестфалія — старой электаральнай цытадэлі сацыял-дэмакратаў. Добрыя вынікі эсдэкаў на Рэйне могуць прымусіць бюргераў паверыць у тое, што эра Меркель сапраўды скончылася. Не дзіўна, што ў актыву SPD нарадзілася арыгінальная ідэя — кандыдат ад сацыял-дэмакратаў у канцлеры павінен узначаліць выбарчы спіс у Паўночным Рэйне-Вестфаліі.

Думаецца, гэта не апошняе ноў-хаў, якое прыгатавалі ў доме імя Вілі Брандта. Нават нягледзячы на відавочную перавагу Ангелы Меркель над сваімі апанентамі, яе перамога пакуль не выглядае гарантаванай. Падзеі мінулага года прымусілі ўсіх па-іншаму глядзець на палітычны працэс у Еўропе, у якім з'яўляюцца новыя непрадказальныя фактары. Таму хто б ні перамог у кастынгу на пасаду кандыдата ў канцлеры ад SPD — Шульц або Габрыэль, — ён мае шанцы.



Фота www.i.ytimg.com

# Імпічмент без вынікаў

Алег НОВІКАЎ

**Парламент Венесуэлы прагаласаваў за імпічмент прэзідэнту Нікаласу Мадуры. Аднак эфект ад галасавання аказаўся нулявы. Дэталі НЧ распавядае Леанарда Эстрада, мексіканскі доктар, які доўгі час працаваў у Венесуэле.**

***— 15 студзеня стала вядома, што Нікалас Мадура запрашае Маскву і Іран дапамагчы краіне ў выпадку агрэсіі з боку Калумбіі. Акрамя таго ў самой Венесуэле на дапамогу арміі мабілізавана каля ста тысяч чальцоў чавісцкіх арганізацый — без уліку таго, што абвешчана пра правядзенне шырокамаштабных манеўраў «Zamora 200». Няўжо ўсё ідзе да ўзброенага сутыкнення з калумбійцамі?***

— Істэрыка ў Венесуэле кантрастуе з настроямі ў Калумбіі, дзе версія канфлікту з суседам цікавіць толькі жоўтую прэсу, якая заўжды шукае сенсацый. Чуткам пра вайну няма веры, па-першае, праз тое, што ў Калумбіі застаецца адкрытым пытанне, што рабіць з рухам камуністаў-партызан, якія ў тым ліку сімпатызуюць балiварскай Венесуэле. Па-другое, незразумела, хто будзе прымаць рашэнне пра быццам бы вайну з Венесуэлай? Армейская эліта Калумбіі звязаная з ЗША, дзе толькі фармуецца новая адміністрацыя і яе стратэгемы. З улікам гэтага мяркую, што прычыны бразгання зброяй у Венесуэле трэба шукаць ва ўнутрыпалітычных працэсах, перш за ўсё праз тое, што 10 студзеня Нацыянальная асамблея абвясціла Мадуры імпічмент з-за невыканання абавязкаў.

***— Ці мела тое галасаванне наступствы?***

— На першы погляд, акцыя апазіцыі ў парламенце апрыёры не магла мець радыкальных наступстваў. У выпадку імпічменту ўлада пераходзіць да віцэ-прэзідэнта. На гэтую пасаду Мадура напярэдадні прызначыў блізкага да сябе чалавека. Такім чынам, бразільскі сцэнар аказаўся ў Венесуэле немагчымы. Акрамя таго, Вярхоўны суд падтрымаў Мадуру ў тым, што дэпутаты не маюць права здымаць кіраўніка краіны. Аднак нейкія наступствы галасавання 10 студзеня назіраць можна. Пад выглядам падрыхтоўкі да абароны ад нападу Калумбіі і ЗША пачалося імклівае будаўніцтва праабразу вайскова-цывільнай формы кіравання. Вайскоўцы атрымалі права ўваходзіць у структуры адміністрацыі.

***— У часы Абамы Вашынгтон неаднаразова ўваходзіў у клінч з Каракасам, дзе адкрытым тэкстам звязвалі дзейнасць ЦРУ і палітычнай апазіцыі. Як улады Венесуэлы ставяцца да цяперашняй ракіроўкі ў Белым доме?***

— Мадура заявіў, што абраны прэзідэнт ЗША Дональд Трамп будзе не горшы за Барака Абаму. Нягледзячы на тое, што сам Мадура ацэньвае Абаму ўжо як палітыка ўчарашняга дня, афіцыёз не стамляецца палохаць венесуэльцаў яго прозвішчам. Кіраўніку ЗША не могуць прабачыць, што яшчэ ў сакавіку 2015 года той падпісаў дакумент аб эрозіі грамадзянскіх свабодаў у Венесуле. Які, маўляў, дае падставу для інтэрвенцыі.

***— Якая рэакцыя апазіцыі на тое, што імпічмент, па сутнасці, не атрымаўся?***

— Праціўнікі Мадуры, натуральна, дэмаралізаваныя, паколькі абвяшчэнне імпічменту ў іх заявах выглядала як пачатак доўгачаканай дэканструкцыі ўсёй мадэлі і спадчыны чавізму. Лідар апазіцыі нават заявіў, што вердыкт Вярхоўнага суда — злачынства перад гісторыяй. Адсутнасць канкрэтных вынікаў прымусіць апазіцыянераў шукаць новыя стратэгіі. Праўда, зараз шмат для каго з іх галоўнае — не трапіць пад зачыстку. Па слядах апошніх падзей кіраўніком краіны быў уведзены так званы «Comando Antigolpe» — план аб барацьбе са спробай дзяржперавароту, пад якім разумеецца галасаванне 10 студзеня. У межах «Comando Antigolpe» ўжо прайшлі першыя арышты апазіцыянераў, якіх абвінавацілі ў падрыхтоўцы тэрактаў.

***— Палітычны крызіс у Венесуэле разгортваецца на фоне сур'ёзных эканамічных праблем. Так, валавы ўнутраны прадукт у Венесуэле ў 2016 годзе ўпаў на 23%. А інфляцыя склала 830% — рэкорд сярод краін Паўднёвай Амерыкі. У дэфіцыце самыя элементарныя тавары і прадукты. Як у такіх кепскіх ўмовах Мадуры ўдаецца ўсё ж кантраляваць сітуацыю?***

— Крызіс рэжыму Мадуры вельмі сур'ёзны, аднак не настолькі фатальны, перш за ўсё з-за слабасці і супярэчнасцяў унутры апазіцыі, дзе ёсць розныя фракцыі, лідары, погляды. Напрыклад, на днях адна з фракцый апазіцыі заявіла, што пастаноўка пытання пра адстаўку Мадуры была непрадуманай, і запатрабавала зменаў у кіраўніцтве Mesa de la Unidad Democrática (MUD) — кааліцыі дэмсіл Венесуэлы. У гэтым плане больш небяспечныя для Мадуры актуальныя рэпартажы з Мексікі, дзе рост коштаў на паліва справакаваў народны бунт. Калі мексіканцы дамогуцца саступак ад ураду, гэта будзе добрым прыкладам для венесуэльцаў.

Натуральна, у Мадуры ёсць пад рукой набор адміністратыўных інструментаў, каб падтрымліваць лаяльнасць — напрыклад, магчымасць узняць заробкі, гарантаваць нізкія камунальныя тарыфы. Афіцыёз спекулюе на тым, што нядаўні прыход да ўлады правых у Аргенціне і Бразіліі не канвертаваўся ў рост народнага дабрабыту. Надзеі на лепшае некаторыя звязваюць з асцярожным ростам сусветных цэн на нафту, за кошт экспарту якой доўгі час краіна няблага жыла.

Аднак у цэлым рэжым чавістаў цяжка назваць пераможцам, паколькі пасля 10 студзеня Мадура адышоў ад прынцыпаў Балiварскай рэвалюцыі. Чавес лічыў, што балiварскае грамадства можна будаваць, абапіраючыся не на войска, а на актыўную грамадзянскую супольнасць і парламенцкую дэмакратыю. Нават аматары балiварскай рэвалюцыі прызнаюць, што той эксперымент цяпер прыпынены, а што ўзнікне — пакуль не зразумела.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Джэры Адамс



Лідар партыі «Шын Фейн», якая ўваходзіць у склад ураду Паўночнай Ірландыі, парушае правілы палітычнай гульні. Як вядома, паводле мірнай дамовы 1998 года кабінет міністраў краю фармуецца на аснове парытэту паміж партыямі пратэстантаў і каталікоў. 15 студзеня «Шын Фейн» адмовілася прадстаўляць новага намесніка прэм'ера (стары пайшоў у адстаўку праз стан здароўя). Такім чынам, ірландцы справакавалі ўрадавы крызіс і датэрміновыя выбары, прызначаныя на 2 сакавіка.

Выбары будуць вельмі спецыфічныя: яны фактычны прыйдуцца на пачатак працэсу выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС. Большасць жыхароў Паўночнай Ірландыі (56 працэнтаў) прагаласавалі за захаванне сяброўства ў Еўрасаюзе. Гэты момант грае на карысць «Шын Фейн», якая выступае за еўрапейскі выбар, у той час як яе канкурэнты — пратэстанцкія партыі — падтрымліваюць Brexit.

У выпадку перамогі партыя Адамса можна паспрабаваць рэалізаваць свой праект, паводле якога Паўночная Ірландыя будзе адначасова сябрам як ЕС, так і Вялікабрытаніі. Калі верыць Адамсу, Брусэль гатовы разглядаць падобны спецстатус краю. У Лондане ж баяцца, што новы статус Белфасту — пераходны на шляху ўключэння рэгіёну ў склад Ірландыі, якая лічыць паўночныя правінцыі, што былі захопленыя Лонданам напачатку ХХ стагоддзя, сваёй гістарычнай тэрыторыяй.

### Рустам Эмамалі Рахмон



Старэйшы сын прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона, 30-гадовы Рустам Эмамалі, самы малады генерал на прасторах СНД, цяпер будзе і самым маладым мэрам. Рашэннем бацькі Рустам быў прызначаны мэрам Душанбэ.

З улікам таго, што выступ новага бургамістра транслявалі вядучыя тэлеканалы краіны, відавочна, што Рустам робяць піяр. Ніхто не мае сумневу, што праца мэрам — гэта яго чарговы крок да прэзідэнцтва, якое, натуральна, патрабуе досведу адміністрацыйнай працы. На новай пасадзе Рустам праявіў сябе вельмі энергічна, паабяцаўшы рэформу інфраструктуры горада, дзе сёння жыве пад мільён чалавек. Акрамя таго, актуальнай, па яго словах, застаецца праблема маштабнай карупцыі ў дзяржорганах.

Самае цікавае, што менавіта з ёй заклікаў змагацца Рустам Эмамалі апошнія два гады, калі займаў пасаду старшыні Агенцтва па барацьбе з карупцыяй Таджыкістана. Паколькі ніякіх поспехаў у гэтай сферы не было, магчымага кандыдата ў прэзідэнты і выправілі кіраваць сталічнай мэрыяй.

Застаецца дадаць, што пасада мэра Душанбэ — самая высокая пасада Эмамалі-юніёра. Раней Рустам — выпускнік Таджыкскага нацыянальнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Міжнародныя эканамічныя адносіны», — займаў пасаду намесніка старшыні Саюза моладзі рэспублікі і адказваў за Федэрацыю футбола Таджыкістана.

### Абдэль Фатах ас-Сісі



Пакуль прэзідэнт і кіраўнік ураду Егіпта прымаў Аляксандра Лукашэнку, яго імідж пацярпеў. Егіпецкі суд апошняй інстанцыі пастанавіў, што ас-Сісі парушыў нацыянальны суверэнітэт краіны, пагадзіўшыся перадаць Саудаўскай Аравіі дзве выспы ў Чырвоным моры.

Тыран і Санарыф было вырашана перадаць саудзітам увесну, што справакавала масавыя пратэсты ў краіне. Ніхто і не хаваў, што гэта была здзелка — землі ў абмен на грошы і на ўдзел Эр-Рыяду ў некаторых інфраструктурных праектах. Аднак простыя егіпцяне думаюць інакш. Прычым, яны гатовыя шмат чым ахвяраваць — за удзел у пратэстах супраць перадачы выспаў было арыштавана 250 чалавек, з якіх 150 атрымалі турэмныя тэрміны ад 2 да 5 гадоў, а яшчэ 75 — штрафы памерам у 9 тысяч долараў.

Цікава, што пратэсты супраць перадачы выспаў каардынавалі дэмакратычныя свецкія арганізацыі. Гэта дазваляе некаторым спадзявацца на тое, што апазіцыяй да рэжыму ас-Сісі будуць не ісламісты, а прагрэсіўныя сілы.

Што тычыцца Саудаўскай Аравіі, то, на думку экспертаў, яна наўрад ці адмовіцца ад супрацоўніцтва з Егіптам. Сярод запланаваных праектаў — будаўніцтва моста над акваторыяй Чырвонага мора, які звяжа абедзве краіны. Стварэнне аб'екту, праз які афрыканскія мусульмане змогуць танней і зручней наведваць Меку, разглядаюць як фактар пашырэння ўплыву ісламу на Чорны кантынент.

# Аляксандр і Марыя Стагановічы:

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**Да канца студзеня яшчэ можна накіраваць заяўку на ўдзел у прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановіч за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры. Прэмія была заснаваная ў 2015 годзе дачкой Марыі і Аляксандра — Тамарай Стагановіч-Кольба, вядомай мастачкай, што жыве ў Нью-Ёрку, — каб ушанаваць памяць бацькоў. Лаўрэатамі першай прэміі ў 2015 годзе сталі Андрэй Федарэнка, Генадзь Кісялёў і Сяргей Дубавец.**

Тамара Стагановіч-Кольба (Ст. Тамара, як яна падпісвае свае творы) нарадзілася 15 лістапада 1930 года ў вёсцы Нясутычы Наваградскага павету.



**Тамара Стагановіч у Мітэнвальдзе (Баварыя). Канец 1940-х гадоў**

Імёны яе бацькоў сёння вядомыя ў Беларусі дзякуючы іх успамінам, што пабачылі свет у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка», а таксама дзякуючы заснаванай дачкою ў іх гонар Прэміі за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры. Сёлета абвешчаны ўжо другі сезон Прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў.

Сама ж Тамара Стагановіч нядаўна скончыла пісаць уласныя мемуары, якія цяпер рыхтуюцца да друку. Успаміны дачкі, у адрозненне ад нясконченых бацькоўскіх, адлюстроўваюць увесь жыццёвы шлях мастачкі да апошніх гадоў. У іх ёсць яркія, кранальныя, эмацыйныя аповеды пра дзяцінства ў Заходняй Беларусі пры паляках, Саветах, немцах; жорсткія падрабязнасці выезду з бацькаўшчыны ў 1944 годзе і пакутнага бадзяння па ваеннай і паваеннай Заходняй Германіі; апісанне прыезду ў ЗША, складаных гадоў уладкавання, пошукаў свайго месца, атрымання адукацыі, станаўлення як мастачкі.

Гэта новыя ўспаміны жанчыны «пакалення Ды-Пі», прадстаўнікі якога апынуліся на чужыне ў дзіцячым ці юнацкім веку, на чый светапогляд моцна паўплывала вайна і паваенныя лагеры для перамешчаных асобаў, і хто атрымоўваў адукацыю ўжо на чужыне. Тамара Стагановіч — паўнавартасная грамадзянка ЗША, вядомая ў гэтай краіне мастачка, якая, тым не менш, ніколі не забывалася, што яна найперш беларуска. І яе ўспаміны выдатна пра гэта сведчаць.

Аповед Тамары — часам дэталёва-падрабязны, дазваляе ўбачыць штодзённае жыццё яе сям'і, асаблівасці ўнутрысямейных і грамадскіх дачыненняў беларусаў у ЗША. Акрамя ўласна «падзейнай» лініі, ва ўспамінах асэнсоўваюцца дачыненні з бацькамі — часам напружаныя, часам пяшчотныя, а таксама ўласная творчасць, пошукі свайго мастацкага стылю. А яшчэ тут ёсць каханне — прыгожае, моцнае, усёпераможнае; каханне насуперак бацькам; каханне і смерць. Менавіта фрагменты ўспамінаў Тамары Стагановіч, прысвечаныя яе мужу-ўкраінцу Аляксандру Кольбу, мы і прапануем чытачу.

## Аляксандр

...Барыс прывёў з сабою свайго сябра Аляксандра, пазнаёміўся са мною і прадставіў яго. Аляксандар быў маўклівы, шмат не гаварыў. Найбольш, што мяне ўразіла, гэта яго чорныя вялікія вочы. Але чаму яны такія сумныя? Мне штосьці запала ў сэрца, мне яго пачало быць шкада. Запытацца, чаму ён такі сумны, мне не выпадала. Пазьней я даведалася, што ягоны бацька памёр. Ужо ў каледжы, калі брала курсы пра гісторыя мастацтва, я пабачыла тыя-ж самыя вочы ў карцінах сьвятых мастака гішпанскага — Эль Грэко. [...]

Барыс і Лёва, здаецца, былі знаёмыя са студэнцкіх часоў. Цяпер яны трох сталі моцнымі сябрамі. Барыс і Аляксандар прыходзілі штодзень ды «выцягалі» Лёву, то на паход у горы, то ў горад, то ў кіно. Гэта дало мне магчымасьць часам хутка пагаварыць з Аляксандрам. Ягоныя вочы, усё яшчэ сумныя, не давалі мне супакою. Чым часьцей яны прыходзілі да Лёвы, тым больш развязваўся Аляксандар, дык і мы знаходзілі пра што пагаварыць. Ён раз запытаўся, ці хацела-б я з і пайсьці ў кіно, тут у Егэрказэрне, бо ён ужо мае білеты. Я адказала, што я буду вельмі радая, бо я вельмі люблю кіно. У Мамы ледзьве выпрасілася, бо яна баялася, каб я не закахалася ў Аляксандра. Але-ж гэта было ўжо пачатае. Нешта ціхае, глыбокае пачало разьвівацца ў нашых сэрцах, хоць мы яшчэ мала знагі адзін за аднаго.

Калі Аляксандар гаварыў да мяне, дык ягоныя вочы былі толькі на мне, не шукалі па баках нічога іншага. Ягоная ўвага была прысьвечаная толькі мне. З часам я даведалася пра Аляксандраву сям'ю. Маці ягоная аўдавела, калі ёй было 38 гадоў, асталася з чатырма сынамі. Аляксандар быў найстарэйшым, а наймалодшы меў 2 гадзікі. Яна выйшла хутка другі раз замуж. А трох старэйшых сыноў высылала запісвацца на розныя курсы, каб мелі чым найбольш фахаў; каб добра жыць у новай краіне. Іхнюю сям'ю, так як і нашую, спансараваў Барыс Барэцкі, каторы прыехаў у Амэрыку раней за нас, дый пасьля аднаго году прыслаў нам запросіны-ўезд да Амэрыкі, а тады год пазьней, выпісаў і Аляксандра.

[...]

Кожнае нядзелі Аляксандар прыяжджае па мяне і мы едзем у парк, у нашае месца на лаўку. Доўга мы гаварылі пра маю праблему з бацькамі. Стараліся знайсьці выхад з гэтае невырашальнае сытуацыі. Тады Аляксандар просіць мяне выйсьці за яго замуж! Ізноў раптоўна, неспадзявана! Божа, чаму мы ня можам жыць так, як ёсьць, аж пакуль не знойдзем правільнага выхаду з гэтай нязноснай сытуацыі?

Ён мяне просіць, каб я яму не адказала, бо ён ня зможа гэтага перанесьці. Я спакойна кажу: «Не цяпер, не цяпер!» Стараюся паясьніць, што цяпер ня ёсьць добры час на жаніцьства, бо неразьвязаная справа з маімі бацькамі не дазволіць мне жыць спакойна, аж пакуль ня выясьніцца зь імі гэтае непаразуменьне. «Я цяпер перажываю жахлівы час, але ўсё-ж надзеюся, што бацькі зразумеюць маё паводжаньне, ды пагодзяцца на нашае жаніцьства. Таму, я не адказваю Табе, але толькі прашу цябе зразумець, што цяпер ня ёсьць для мяне добры час».

[...]

Аляксандар і я прыходзім да перакананьня, што пакуль мае Бацькі не пагодзяцца прыняць нас ды абгаварыць гэтую сытуацыю, каб яе вырашыць нармальным паразуменьнем, мы будзем стаяць, як на лёдзе, каторы штохвіліны можа зламацца пад нашымі нагамі. Таму рашаем, штоб ні сталася — пабрацца. Ажаніцца ды выехаць адсюль чым найдалей, нават можа на Гаваі.

Найперш, мы рашылі паехаць да айца Данілюка, каторы служыў у царкве ў Брукліне, ды прасіць яго нас павянчаць. Нашае зь ім спатканьне астанецца ў маім жыцьці як спакойнае, чульлівае, такое, як сапраўдны сьвятар павінен адносіцца да сваіх вернікаў. Мае надзеі, што вось тут толькі вырашыцца нашае пытаньне, шуганулі ўгару, калі айцец Данілюк заявіў нам, што ён нас павянчае. Аднак, калі ён нам аб'явіў, што мы павінны атрымаць дазвол ад уладыкі Васіля, маё сэрца чуць не трахнула да падлогу. Я-ж знала добра, што Папа і ўладыка Васіль бралі разам удзел у аднаўленьні Беларускае Аўтакефальнае Царквы яшчэ ў Нямеччыне, ды, што Папа тады яшчэ марыў, каб утрымоўваць уладыку Васіля за свой кошт. Я адчула ў сваёй душы, што нашая візыта надарэмная, што ўладыка возьме старану майго Бацькі як праваслаўнага верніка гэтае-ж царквы, а не маю.

Мае перадчуцьці споўніліся. Уладыка Васіль аб'явіў нам, што ён нас павянчаў-бы, але-ж: «Стагановіч ёсьць маім найбліжэйшым сябрам, а ты ягоная дачка, дык я не змагу вас павянчаць». Ён пачаў нам даваць лекцыі аб дзецях і бацьках, аб паслухмянасьці дзяцей, аб грахох, калі дзеці ня слухаюць сваіх бацькоў і г.д., і г.д. Я не магла больш слухаць такое літаніі, ды думкамі адказвалася супраць ягонага «маральнага» права. Мы-ж былі ўжо дарослыя, мы мелі права рашаць ход нашага асабістага жыцьця, мы не рабілі гэта, каб апаганіць нашых бацькоў, дый я ня бачыла тут граху ў ім. Мама ж была ўсяго 16-гадовай, а Папа 24-гадовым, калі прысягнулі чакаць адзін на аднаго, што-бы не сталася. І яны-ж знагі забарону бабкі Ганны, яна ім напамінала, што пра жаніцьбу, каб яны нават і не думалі, бо былі блізкімі сваякамі — а гэта-ж грэх. Праўда, яны пажаніліся, але ўжо па сьмерці бабкі Ганны!

Далей уладыка Васіль пачаў даваць свае парады: «...разыйдзецеся вы, з часам вы забудзеце адзін аднаго; з часам вы знойдзеце сабе іншую пару ды ажэніцеся». Толькі дзеля пашаны да ягонае царкоўнае пасады я ўстрымалася, каб не выскачыць з гэтага памешканьня!



**Аляксандр Стагановіч з дачкой Тамарай, выпускніцай Western College (Оксфард, Агаё). 1954 год**



**Тамара Стагановіч**

Абгаворваем, што рабіць далей. Аляксандар заяўляе мне, што ён ня хоча вянчацца і ў украінскай царкве, каб не было далейшай падставы Папу ненавідзець яго. Але дзе й як? Прыходзім да перакананьня, што мажліва грэцкая царква можа нас павянчаць. Тэлефануем у грэцкі сабор (Hellenic Cathedral Holy Trinity), атрымоўваем назначаную гадзіну на спатканьне зь іхнім сьвятаром. Божа! Якая вялікая розьніца ў адносінах іхніх сьвятароў да людзей. Просіць нас садзіцца, кажа, што ён ёсьць айцец Казанас (Konstantine J. Kazanas). Пытаецца ў нас пра наш век і адразу нам кажа: «Пэўна-ж, я вас павянчаю». Тады расказвае нам гісторыю маладзенькае пары, што была тут у яго перад намі. У маіх вушах зьвініць ягоны голас: «Пэўна-ж, я вас павянчаю». Я яшчэ не веру, што тут сталася. Няўжо гэта праўда? Няўжо гэта канец нашаму вандраваньню па «муках»? Але стараюся слухаць ягонага апавяданьня. Вось гэтая маладзенькая пара, толькі-што кончылі гімназію, ім па 18 гадоў, але яны ўжо другі раз прыходзяць да яго, каб ён іх павянчаў. Ён даў ім добрыя парады, не адкідаючы іхняга жаданьня пра вянчаньне; даў ім шмат літаратуры пра жаніцьства, ды накрэсьліў ім на паўгода гутаркі зь ім, з айцом Казанас. Гэтая ягоная гутарка зь імі дасьць ім больш часу да дарастаньня, бо за гэты час яны пасталеюць і разважна пачнуць думаць пра жаніцьбу.

Выйшлі мы на вуліцу, яшчэ ня верачы, што наш лёс ужо вырашаны! Што будзе — тое й будзе! Ад гэтага моманту малюся са страхам, просячы ў Бога дапамогі. Гэта, я яшчэ надзеюся, што Папа зьменіць свае думкі пра нашую жаніцьбу. Падыходзіў

# Абрэзкі з мінулых гадоў

дзень нашага шлюбу, а я яшчэ надзеючыся — адклала! Але ўжо калі назначылі на другі раз, я прасіла бога за здароўе бацькоў і Лёвы, ды за здароўе Аляксандравае мамы. Яна, даведаўшыся, што мае бацькі настаўленыя супраць Аляксандра, надзьмулася, ды не магла сабе ўявіць, каб нехта не любіў ейнага сына, першанца! Забрало нам шмат часу ўгаварыць яе, што гэта не таму, што Аляксандар — яе сын, а таму, што яны з усходняе Украіны — значыць, выхаваныя пад савецкай-камуністычнай уладай, дык усе, напэўна, камуністы, як лічыў бацька. Але гэта нічога не памагло.

Тут у Амэрыцы ўсе шлюбы адбываюцца ў суботы. Наш шлюб назначаны на 22-га лютага 1958 г. — гэты дзень ёсьць праўдзівым днём нараджэньня Джорджа Вашынгтона, першага прэзыдэнта Амэрыкі. Гэта проста так нам выпала, бо тады мы не зьвярталі ўвагі, што гэта за дзень, дый спэцыяльна не выбіралі.

Я аб'явіла маім манашкам, што выходжу замуж. Усе яны вельмі мною цешыліся, а дзяўчаты ўсе чакалі тое суботы. Спэцыяльных прыгатаўленьняў мы не рабілі, толькі замовілі царкву-катэдру з айцом Казанас і недалёкі рэстаўрант толькі для Аляксандравае сям'і, ды й для Барыса, Галі і Мусі, бо-ж з майго боку, зь мае сям'і нікога ня будзе. Муся, мая сяброўка-украінка яшчэ з гімназійных гадоў, была за дружку, а Валянтын, Аляксандраў малодшы брат, за шафера. Барыс і ягоная жонка Галя былі як-бы «сват і сваха», бо яны ўжо мелі сваё аўта, дык прыехалі мяне забраць ад манашкаў. Пагода была, як на бяду, жахлівая. Было поўна сьнегу, які ўжо напалавіну раставаў, ды канавамі стаяла сьцюдзёная вада на вуліцах па костачкі. Барыс прыйшоў у дом, каб адтуль несьці мяне ў аўта.

Усе дзяўчаты й манашкі чакалі мяне на першым паверсе ў фае, як я памалу сходзіла па сходах. Я рашыла адзначыць гэты свой дзень, які стаецца раз у жыцьці, ды купіла сабе цудоўную й дарагую белую шаўковую сукенку з кружавам і валь кароткі. Аляксандар прыслаў мне букет розаў, а Барысу даў наказ не зьяўляцца ў царкву без Тамары. [...]

Сустрэў мяне айцец Казанас. Я папрасіла яго, каб ён вёў мяне да аўтара (тут, як закон, бацька вядзе маладую да вянца), дзе ўжо чакаў на мяне Аляксандар. Айцец з радасьцяй згадзіўся!

Шмат чаго я ня помню, бо мае нэрвы не давалі мне ўсё успрымаць і ўсё чуць. Як-бы недзе здалёк даходзілі й адыходзілі словы айца Казанаса. Помню як ён клаў мне на галаву вянок зь белых кветак. Не кароны — а вянкі кветак! Я добра не прыпамінаю, як ён нас вадзіў кругом малога прэстолу тры разы. І не помню, як пры канцы сьвятар кажа пацалавацца маладым.

Аляксандар згадваў: «Падчас нашага шлюбу айцец Казанас глядзіць на мяне дый кажа: «Для гэтага муж пакіне свайго бацьку й матку й з'яднаецца з жонкай, і яны дваіх стануць адным целам».

Пасьля шлюбу мы пайшлі ўсе да фатографа ў студыё, дзе ён і ягоная дачка рабілі нам фатаграфіі. А пасьля пайшлі да недалёкага рэстаўранту на абед. Гэта не было вясёлае вясельле, бо толькі адна сям'я была прысутная. З майго боку нікога! Як я магла радавацца? Толькі тое, што адна праблема вырашаная, ці на добра, ці на дрэнна, але вырашаная! Цяпер маё жыцьцё будзе залежаць ад нас абаіх, а што станецца ў сям'і — гэта будзе залежаць ад Бога.

Пасьля ўсяго мы папрашчаліся з Аляксандраваю сям'ёю ды Барыс з Галяй адвезлі мяне й Мусю да маіх манашак, бо за пару гадзін Аляксандар і я мелі замоўленыя білеты на аўтобус (Greyhound) ехаць на адзін тыдзень у Канаду на лыжы. Муся й я мелі пару гадзін на ціхія гутаркі пра ўсё, што сталася ў маім жыцьці, ды пра неакрэсьленую будучыню. Што можа стацца з бацькамі, мы ня мелі зялёнага паняцьця. Я малілася й прасіла ў Бога не дапускаць больш трагэдыяў у нашай сям'і. Думаю, што старэйшы мой брат Шура рабіў правільна, бо свае падружжы (першы раз ён ажаніўся зь немкай, а другі раз з украінкай) трымаў ад сям'і ў сакрэце, аж пакуль ставала ўсё ясна і ўжо нічога й ніхто ня мог зьмяніць. Дык было тады па часе наракаць, гневацца ды паграджаць. [...]

Вярнуліся мы з Канады да Аляксандравай мамы. Памешканьня свайго мы яшчэ ня мелі, бо ў такой непастаяннай сытуацыі, як нашая, мы нічога канкрэтнага не маглі рашаць. На нашае шчасце, мы знайшлі кватэру ўмэбляваную ў заходняй частцы Мангаттана, ды туды перанесьлі свае рэчы. Мой першы абед быў катастрафічны! Здавалася, што біфстэйк, картофля, агародніна й салата павінны былі быць вельмі проста прыгатаваныя? Але для мяне, не знаючы, як варыць, было непрадугледжанае. Я ўсё паставіла варыць і жарыць у тойсамы час. Але як біфстэйк быў гатовы за 14 хвілін, картофля была яшчэ зусім сырая, а агародніна напаўвараная. Мне было вельмі сорамна перад Аляксандрам, ды гэта прывяло мяне да сьлёз. Але-ж ён знаў, што я не ўмею варыць! У гэтым маім выпадку, я не ўяўляла, колькі хвілін кожная страва забірае для варэньня або жарэньня! Памалу пры дапамозе малое «кухаваркі» — кніжачкі, я выбірала падобныя да Маміных страваў, ды па часе ўцягнулася з запалам у кулінарыю. У гэтым памешканьні адведала нас Галіна. У гэтым памешканьні я пачала маляваць! Першую карціну, успаміны з Альпаў, я падаравала Аляксандру!

Па нейкім часе (адзін месяц пасьля нашага мядовага падарожжа ў Канаду), Галіна йзноў прыехала да нас і прывезла нам цудоўную, неспадзяваную навіну: «Твае бацькі хочуць пабачыцца з вамі». Мяне гэтая вестка ўскалыхнула да глыбіні. Няўжо? Няўжо яны зьмянілі свае пагляды? Папа-ж быў вельмі стойкі ў сваіх адносінах да іншых поглядаў людзей, а чаму да нас ён іх зьмяняе? Я пачынаю быць вельмі асьцярожная. Галіна абяцае нам пайсьці разам з намі.

У назначаны дзень мы траіх уваходзім у Бацькоўскі дом. Адразу-ж у ўваходзе стаіць Мама з падносам на якім я бачу хлеб і соль, і гарэлку. Яна нас адразу-ж бласлаўляе, ды мы ўсе выпіваем гарэлку, закусваючы хлебам і сольлю. Мы цалуемся, ды я прашу ў яе выбачэньня. Мы ўсе маем сьлёзы ў вачах. Цяпер яна падштурхоўвае мяне ісьці ў сталовую, дзе я бачу Папу, ляжачага на дзіванчыку. Я адразу бягу да яго, цалую, з плачам прашу яго выбачыць мне за маё паводжаньне. Ён мяне бласлаўляе, цалуе мяне й плачучы просіць мне прасыціць яму за ягонае несправядлівае дноашэньне да мяне й Аляксандра. Тады падыходзіць да яго й Аляксандар, але гутаркі паміж імі я ня чула, бо яшчэ была ў гэткім паднесеным, нэрвовым стане, што нават і ня помню Галіны, што яна была прысутная тут-жа. Знаю, што Мама нас частавала чаем і салодкім печывам, але ня помню якім і як. [...]



Наталля Арсеннева падпісвае кнігу Тамары Стагановіч. Злева — Марыя Стагановіч. 1980-я гады



Тамара Стагановіч дэманструе, як ткаць беларускія паясы на фестывалі ў Нью-Джэрсі. 1987 год



Марыя Стагановіч з дачкой Тамарай у бацькоўскім агародчыку. Нью-Джэрсі, 1960-я гады

Спачатку гутарка не вязалася, дык мы папрашчаліся зь імі й паехалі ў Нью-Ёрк, абяцаючы, што суботамі будзем іх адведваць.

### Сумеснае жыцьцё

Пачаліся найшчасьлівейшыя гады ў маім новым, невядомым жыцьці. Прывыкаць ад замужняга жыцьця спачатку было ніякава; былі нечаканыя маленькія «праблемкі», але Аляксандар умеў, як да мяне падыйсьці й выясьніць іх. Тады мне тыя «праблемкі» рабіліся сьмешнымі ды сарамлівымі. Я была заўжды настарожаная, дык найменшае непаразуменьне мне ўяўлялася як нейкая абраза; я замыкалася ўнутры ды не хацела зусім гаварыць. А ён, маючы бязьмерную цярплівасьць, садзіў мяне на канапу й раз'ясьняў мне тую, мною ўяўленую «абразу». Мы тады далі адзін аднаму слова не замыкацца ў сабе, але адразу-ж сесьці, пагаварць ды выясьніць, у чым справа.

З дня на дзень я бачыла ягоную вялічэзную ды моцную любоў да мяне. Аляксандар баяўся, каб я не адхілялася нідзе ані на сэкунду; заўжды трымаў мяне за руку або плечы. Няўжо гэта тая праўдзівая любоў, пра якую я тады яшчэ ня знала? Я чулася як-бы ў нейкім зачараваным любоўю царстве, дзе знаходзіліся толькі мы, я й Аляксандар. Я думкамі шукала паміж нашымі знаёмымі параў такіх, як мы, але параўноўваючы іхнія адносіны з нашымі, не знаходзіла нікога з такою сілаю любові. Тады мне ставала страшна, і я думала, Божа, чаму гэткае каханьне наканаванае мне? Чым я яго так заслужыла?

[...]

У маіх вачах ён быў надзвычайным чалавекам. Спакойны, разважлівы, ціхі, ды ягоную любоў да мяне я адчувала й чула кожны дзень нашага замужжа. Ён ніколі ня гневаўся. Ён прымаў усе спакойна, зраўнаважана. Ад першых дзён нашага знаёмства я адчувала нейкую сумную цягу да яго. Цераз усё нашае замужняе жыцьцё мы казалі адзін другому «I love you» («Я кахаю цябе») у кожны момант ці хвілінку. І я бачыла ў ягоных вачах, што заўждыastaнаўляліся на маім аблічы, на ягоных вуснах была шчасьлівая ўсьмешка.

Нашага каханьня я не ўяўляла, што такое існуе наагул. Нават і цяпер я яго падзіўляю ды ня верыцца, што яно было прызначанае якраз мне. Аляксандар заўжды сваім амэрыканскім сябрам казаў, што Другая Сусьветная вайна пачалася з-за нас, каб даць нам мажлівасьць сустрэцца й закахацца; адлегласьць паміж паўдзённа-ўсходняй Украінай і паўночна-заходняй Беларусяй ёсьць вялічэзная. У нармальных абставінах мы ніколі не сустрэліся-б! Дык нам наракаць на вайну ня трэба, бо безь яе мы павыходзілі-б і пажаніліся-б з іншымі, барані Божа!

Мы былі вельмі шчасьлівыя 53 гады й 4 месяцы!!! Дзякую Табе, мой каханы!





# «Жаніцьба Цярэшкі»: магія беларускага секс-сімвалу

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Калядная гульня «Жаніцьба Цярэшкі» — даўнішняя забава моладзі, вядомая са старажытных часоў. Яе аўтэнтычны варыянт быў прадстаўлены ў клубе «Грай» гасцямі з Лепельшчыны ў рамках чарговай сустрэчы грамадскай ініцыятывы «Спеўны сход з Сержуком Доўгушавым».**

Пра сутнасць гэтай гульні і яе мэты мы папрасілі распавесці кіраўніка гурта «Vuraj» Сержука Доўгушава: «Каляды яшчэ не скончыліся, таму мы працягваем святочную тэматыку «Спеўнага сходу», прысвечаную менавіта калядным ігрышчам. Наша мэта — навучыць маладых людзей спяваць песні, якія суправаджаюць «Жаніцьбу Цярэшкі». Палову праграмы сходу мы будзем вучыцца спяваць, а другая палова — сам абрад. У правядзенні абраду нам дапамогуць госці з Лепельшчыны, дзе каторы год праводзіцца гэтае фальклорнае свята. Сярод іх фальклярыст Вольга Маханенка з сябрамі і сяброўкамі, якія ведаюць усе песні, маюць вялікі вопыт у правядзенні абраду і будуць кіраваць усім працэсам»

Спадарыня Вольга Маханенка дадала да слоў Сержука іншыя цікавыя факты з гісторыі «Жаніцьбы Цярэшкі»:

«Гэты абрад вядомы на нашых тэрыторыях з часоў Полацкага княства, калі ён быў упершыню зафіксаваны ў пісьмовых крыніцах. Па звестках фальклярыстаў, «Жаніцьба Цярэшкі» была пашырана ў межах цяперашняй Віцебскай вобласці. Што датычыцца нашага Лепельскага раёна, то абрад захаваўся на ўзроўні бытавой традыцыі. Да цяперашняга часу ў нашых вёсках збіраецца моладзь па вялікіх хатах ці клубе, каб жаніць Цярэшку.

Цярэшка — гэта такі міфалагічны сімвал продка, які спрыяў каханню маладых, злучаў маладых. У мінулым ён «драўляны хлопчык», які з'явіўся ў бяздзетных бацькоў. У сучаснай інтэрпрэтацыі — гэта малады і гожы хлопец, як цяпер кажуць, секс-сімвал, які прыходзіць на свята, каб выбраць сабе каханую для шлюбу.

На «Жаніцьбу Цярэшкі» дзяўчаты прыносілі калядныя пачастункі — кілбасы і вяндліну, хлопцы — пітны мёд ці гарэлку. Абавязкова выбіралі Маці і Бацьку, і з дапамогай гэтых персанажаў моладзь пачынала знаёміцца паміж сабой. Калі пашукаць метафару «Жаніцьбе Цярэшкі», то можна было б, з вялікай доляй упэўненасці, назваць яе «паганскай дыскатэкай» з абрадавымі прыпеўкамі, якія азначалі прыязнь альбо непрыязнь («Ой, бяда, бяда, далі мне старога дзяда!») адзін да аднаго. Свята ў сацыяльным плане было, так бы мовіць, «несапраўдным вяселлем», падрыхтоўкай да сапраўднага шлюбу.

Гэтае свята мы сёння прадставім і развучым разам са сталічнай моладдзю. З намі будуць нашыя сябры — народны майстар Галіна Жураўлёва, якая прадстаўляе публіцы мастацтва выцінанкі. Яна будзе выконваць ролю Маці. Таццяна Бехерава будзе дапамагаць у развучванні танцаў. Чацвёрты наш удзельнік — уладальнік эка-аграсядзібы Віктар Труфанаў, будзе нам дапамагаць ствараць святочную атмасферу. Для нас абрад «Жаніцьба Цярэшкі» — частка нашай нацыянальнай спадчыны, бо з гэтымі мелодыямі мы нарадзіліся, яны ў нас у сэрцы і іх мы хочам перадаць гэты скарб нашым дзецям».



**Цярэшка — гэта міфалагічны сімвал продка, які спрыяў каханню, злучаў маладых. У сучаснай інтэрпрэтацыі — гэта гожы хлопец, які прыходзіць на свята, каб выбраць сабе каханую для шлюбу**

Утульныя і з дызайнерскім густам афармленыя залы кафэ-клуба «Грай» ледзь змясцілі ўсіх жадаючых прыняць удзел у абрадзе. І вось, здаецца, усе ў зборы! Гэта сігнал для Сержука Доўгушава пачынаць «распеўкі». Вакальныя практыкаванні, якія прапанаваў Сяржук для ўдзельнікаў «Спеўнага сходу», паспрыялі ўзнёсламу настрою публікі на ўдзел у старажытным абрадзе. Нават тыя з наведвальнікаў, хто ўпершыню завітаў на «Спеўны сход», «загарэліся» жаданнем хутчэй акунуцца ў святочную атмасферу абраду.

І вось Сяржук Доўгушаў і Вольга Маханенка запрашаюць моладзь у суседнюю залу клуба, дзе планавалася «жаніць Цярэшку». Пасля абрання Маці і Бацькі, з прыпеўкамі і скокамі пад гарачую мелодыю «Лявоніхі», пачынаецца сватанне да сваіх суджаных. Іх бласлаўляюць Маці і Бацька:

*Каціласся калясо з клеці,*
*Ой, жывіце харашо, дзеці.*
*Не буцеся, не сварыцеся*
*Цёмна стане — спаць кладзіцеся.*

Пасля таго, як моладзь знайшла сабе пару, распачаліся карагоды, танцы, гульні і гумарыстычныя сцэнкі з удзелам камічнага Дзеда, які таксама хукае сабе маладую нявесту. І сапраўды, гарадская моладзь, шмат хто з іх перад пачаткам «Спеўнага сходу» не «вылазіў» са сваіх смартфонаў, забыліся на свае гаджэты і ў святочнай віхуры танцаў і гульняў знаёміліся і выказвалі адзін аднаму сімпатыі. Асабліва падчас гульняў з пацалункамі абраннікаў «Вішанька»...

Ну дакладна, як было закладзена сэнсам старажытнага абраду «Жаніцьба Цярэшкі». Атмасфера, якая панавала ў клубе, шчырыя пачуцці людзей, асабліва маладых, з упэўненасцю можна было б ахарактарызаваць адным словам: магія!

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Кассир Всего ______

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанававаць у рэдакцыю (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 64

Падпісана да друку 20.01.2017. 8.00.
Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.